• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

23 ліпеня 1996 г.
аўторак, №№ 184-185
(22987-22988)

# ЗВЯЗДА






*РОЗГАЛАС*

## МАГІЛЁЎ ПЕРАХОДЗІЦЬ НА КАРТКІ

**Другім горадам на Беларусі, карыстацца тэлефонамі-аўтаматамі ў якім цяпер можна толькі пры дапамозе магнітных картак, стаў Магілёў. Як і ў сталіцы, кошт адной хвіліны размовы тут вызначаны ў 300 рублёў, цана самой карткі — дзесяць тысяч.**

Такім чынам, за магнітную картку, разлічаную на 15, 30, 60 і 120 хвілін размовы, магіляўчанам і гасцям горада прыйдзецца плаціць 14,5, 19, 28 і 46 тысяч рублёў адпаведна.

Цікава, што сам «сюрпрыз» ад мясцовых сувязістаў у горадзе быў успрыняты даволі спакойна: маўляў, адбылося тое, аб чым тут казалі ўжо даўно і што, урэшце, здарылася. Абурыла іншае: колькасць месцаў, дзе можна набыць патрэбную картку для тэлефона, пералічыш літаральна на пальцах адной рукі. Для амаль што чатырохсоттысячнага Магілёва, згадзіцеся, гэтага малавата.

**Сяргей ГРЫБ.**

## 700 МІЛЬЁНАЎ ЗА «ЧАРАВІЧАК»

**У такую суму (пры стартавай цане 117 мільёнаў рублёў) абышлося права дзесяцігадовай арэнды гэтага абутковага магазіна, размешчанага ў Гродне на вуліцы Ажэшка.**

Яго новы гаспадар, перамогшы дваіх канкурэнтаў, атрымаў ад вядучага аўкцыёну Віктара Шалкевіча гліняны медаль «За вызваленне крамы». У адпаведнасці з папярэднімі ўмовамі, два гады ў «Чаравічку» немагчыма скарачэнне рабочых месцаў, на працягу пяці гадоў не павінен мяняцца яго профіль.

Дарэчы, гэта здзелка аказалася адзінай на юбілейным, дваццатым аўкцыёне продажу аб'ектаў камунальнай уласнасці горада над Нёманам. Астатнія чатыры лоты (у тым ліку магазін «Мелодыя» з першапачатковым коштам 294 мільёны рублёў) не разыгрываліся, бо на іх ніхто пакуль не прэтэндуе. Хаця не, была прапанова з залы купіць не ўсю «Мелодыю», а частку яе. На што вядучы парыраваў, што гэта вам, маўляў, не «ля-ля-фа»...

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## ДЗЯРЖАЎНАЯ СІМВОЛІКА ДАНІІ — СПРАВА РУК АСІПОВІЦКІХ НАДОМНІКАЎ

Чуткі, вядома, справа несур'ёзная, але, як кажуць, дыму без агню не бывае. Размова ідзе пра заключэнне кантракту Асіповіцкім камбінатам надомнай працы з дацкай фірмай «Маскот». Як выявілася, на самай справе падпісана дамоўленасць і пачалі ўжо тут выпускаць па заказу датчан зімовыя рабочыя курткі. Да канца года мясцовыя майстры павінны адгрузіць 25.000 адзінак гэтага тавару.

Але акрамя таго, аказваецца, ужо другі год запар тут працягваюць шыць чахлы для мэблі па дамоўленасці з фірмай «Інавэйшэн» (Данія). А са сваім даўнім партнёрам, дацкай фірмай «Аслігруппэн», асіповіцкія надомнікі наладзілі выпуск дзяржаўнай сімволікі Даніі — сцягоў і вымпелаў.

Варта адзначыць і вось што: усе расходныя матэрыялы, ад нітак, гузікаў і тканіны, уключаючы неабходнае абсталяванне, завезлі самі заказчыкі. На 1997 год плануецца заключэнне чарговага кантракту з фірмай «Маскот» на выпуск летніх рабочых камбінезонаў. Працягваецца сувязь і з двума іншымі замежнымі кліентамі.

Вось і вер пасля гэтага, што на перыферыі няма дзе разгарнуцца.

**Павел ЖАДАНЫ.**



*Апошні прытулак навявае смутак.* **Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.**

*УСЛЕД ЗА ПАДЗЕЯЙ*

## Прэзідэнт краіны паабяцаў падтрымку тым прадпрымальнікам, хто займаецца вытворчасцю

**Сярод прадпрымальнікаў, бізнесменаў, ды і кіраўнікоў, арганізатараў вытворчасці з дзяржаўнай формай уласнасці ідэя з'езда дзелавых колаў Беларусі абмяркоўвалася даўно. І вось задуманае здзейснілася. Сярод афіцыйных арганізатараў мерапрыемства — Нацыянальная асацыяцыя прамыславікоў і прадпрымальнікаў. У цэнтры ўвагі літаральна ўсіх выступленняў на з'ездзе — многія і многія клопаты, якія штодня ўзнікаюць у стасунках прадпрымальнікаў і дзяржавы.**

Менавіта гэтаму і прысвяціў свой даклад старшыня праўлення НАПП Канстанцін Устымчук. У прыватнасці, ён заначыў, што ў апошні час пытанні дзелавога жыцця знаходзіліся ў цэнтры ўвагі кіраўніцтва дзяржавы. І, нягледзячы на магчымую крытыку і ўрада, і парламента, усё ж увага да прадпрымальніцтва, дзелавой актыўнасці праяўляецца. Іншая справа, што зроблена не ўсё, чаго чакаюць, што можна было б зрабіць. Што, калі гаварыць канкрэтна, прапануюць самі дзелавыя людзі? Па-першае, — і гэта прагучала ў дакладзе К. Устымчука, — няблага было б стварыць пры адным з цэнтральных органаў кіравання Кансультатыўны савет, які б за галоўную задачу меў клопат па выпрацоўцы дзяржаўнай праграмы падтрымкі прадпрымальніцтва. Не забыўся старшыня НАПП і на сваіх калег — дзяржаўных вытворцаў, прапанаваўшы на 2-3 гады ўвесці адтэрміноўку выплаты запазычанасці прадпрыемствам з усімі формамі ўласнасці. Прагучала і ідэя стварэння спецыяльнага банка падтрымкі прадпрымальнікаў — гэтай своеасаблівай касы ўзаемадапамогі. Увогуле слова «падтрымка» часта гучала і ў дакладзе К. Устымчука, і ў іншых выступленнях. Няма сумнення, што такая падтрымка патрэбна. І, відавочна, ці не ў першую чаргу ў сферы падатковай палітыкі. У хуткім часе будзе прыняты падатковы кодэкс, які стане, магчыма, таксама важкай прыступкай і ў развіцці прадпрымальніцтва.

Але ж, калі б выйсці за тэрыторыю залы, дзе праводзіўся з'езд, уважліва зірнуць на навакольнае жыццё, з разуменнем выслухаць абывацеля, то мо і пра падтрымку прадпрымальнікам гаварыць варта было б зусім з іншай інтанацыяй.

Безумоўна, сімпатычнымі, прыцягальнымі выглядаюць амерыканскія лічбы. За апошнія 10 гадоў 90 працэнтаў рабочых месцаў створана ў малым і сярэднім бізнесе. 60—70 працэнтаў амерыканцаў складаюць сярэдні клас (а якраз ён — аснова сацыяльнай стабільнасці). У Расіі ж сярэдні клас — 10—12 працэнтаў. У нас, на Беларусі, мусіць, і таго меней. Але, як слушна заўважыў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, мы ж яшчэ не маем тых, амерыканскіх, стагоддзяў на шляху да рынку. Увогуле ў сваім выступленні Аляксандр Рыгоравіч, абазначыўшы многія накірункі спрыяльнага ў будучым стаўлення да прадпрымальніцтва, быў даволі бескампрамісны. Як сведчанне — і пытанне, што называецца, у лоб, зададзенае «новым беларусам»: «Вы — палітыкі, ці бізнесмены, а, магчыма, вы — палітыканствуючыя бізнесмены?..» Аляксандр Лукашэнка нагадаў, што за час свайго прэзідэнцтва ён не перашкаджаў прадпрымальніцтву. І здзіўлены тым, што пэўныя бізнесмены актыўна яго крытыкуюць. Ці магчыма такое ў Амерыцы, Кітаі, якую б там ад кіраўніка дзяржавы мелі падтрымку аматары крытыкі? І ўсё ж Прэзідэнт яшчэ раз заявіў аб падтрымцы прадпрымальніцтва, але менавіта таго, што займаецца вытворчасцю. Сёння ж, як вядома, лічба прадпрымальнікаў, вытворцаў складае 16—18 працэнтаў ад усяго бізнесу на Беларусі. Безумоўна, гэта не спрыяе фарміраванню эканамічнай стабільнасці дзяржавы.

Але ж і ў прадпрымальнікаў, няхай сабе і гандляроў, ёсць процьма пытанняў да кіраўніцтва краіны. Ці чуюць, разумеюць і ці гатовыя даць наверсе адказ на іх? На з'ездзе Прэзідэнт абвясціў, што ім падпісаны ўказ аб падтрымцы малога і сярэдняга прадпрымальніцтва. Асноўныя абсягі дакумента — аб'яднанне сіл і сродкаў па дзяржаўнай падтрымцы, падаткавыя льготы, стварэнне прынцыпу роўнасці для ўсіх формаў уласнасці, стымуляванне ўдзелу ўнутраных інвестараў у прыватызацыі, а таксама кропкавая (мэтавая) падтрымка прыярытэтных накірункаў. Таксама створана міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый. Міністрам прызначаны А. Сазонаў. Значыць, наступныя крокі — за самімі прадпрымальнікамі, як лічыць Прэзідэнт. Тым болей, што і зараз сярод памочнікаў Прэзідэнта — вядомы на Беларусі эканаміст-рыначнік П. Капітула.

Асобную ўвагу ў сваім выступленні на з'ездзе Прэзідэнт Беларусі прысвяціў адносінам нашай краіны з Расіяй. Падкрэсліўшы, што не жадае бачыць развіццё сваёй дзяржавы ў разрыве з Расіяй, Аляксандр Лукашэнка ўсё ж заўважыў вялікае замаруджванне працэсаў інтэграцыі з больш магутнай суседкай. І віна ў гэтым — зусім не Беларусі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ*

## УСЁ ЁСЦЬ, АКРАМЯ «ЗОЛАТА»




**Сёння на XXVI Алімпійскіх гульнях у Атланце — чацвёрты дзень спаборніцтваў, і будуць разыграны 17 камплектаў узнагарод.**

Першыя ж два дні «стартаў чатырохгоддзя» прынеслі некалькі нечаканыя вынікі. У лідэры па чэмпіёнах выйшла каманда Польшчы — 4 «золата». Магчыма, гэта звязана з тым, што па традыцыі палякі моцныя ў такіх відах спорту, як барацьба і стральба, а менавіта ў гэтых дысцыплінах па алімпійскаму календару напачатку была разыграна большасць камплектаў узнагарод. Дарэчы, усе тры медалі беларусаў таксама звязаны з барцамі. А вось стралкі падвялі. Алімпійскія чэмпіёны Барселоны Канстанцін Лукашык і Ірына Шылава не трапілі нават у тройкі прызёраў.

І ўсё ж хацелася пачаць з прыемнага. Першае «серабро» ў нашай зборнай прынёс Аляксандр Паўлаў з Гродна, сярэбраны прызёр чэмпіяната свету-94 па грэка-рымскай барацьбе. Ва ўпартай барацьбе ён прайграў схватку чэмпіёну свету карэйцу Сім Квон Хо.

«Бронзай» папоўніў «капілку» беларускай зборнай яшчэ адзін гродзенскі барэц — Валерый Цыленьць (да 82 кг).

У вагавай катэгорыі звыш 100 кг не хапіла ўдачы, каб стаць алімпійскім чэмпіёнам, мінчаніну Сяргею Ліштвану. Уладальнік залатога медаля нядаўняга чэмпіянату Еўропы па ачках уступіў паляку Анджэю Вронскі.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

## ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ — ГАЛОЎНАЕ СВЯТА ДЗЯРЖАВЫ

**Набліжаецца 27 ліпеня — Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Сёлета наша краіна шосты раз адзначыць аднаўленне сваёй дзяржаўнасці, якую яна набыла зноў у 1990 годзе дзякуючы прыняццю тагачасным парламентам Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Але як ні прыкра, па-рознаму збіраюцца адзначаць чарговую гадавіну абвяшчэння суверэнітэту розныя палітычныя сілы Беларусі. Для адных гэты дзень, як і беларуская незалежнасць, стаў косткай у горле, для другіх ён стаў самым галоўным святам, якое заслугоўвае максімальных урачыстасцей.**

Учора ў Вярхоўным Савеце адбылася прэс-канферэнцыя, на якой аб сваёй пазіцыі заявілі дэмакраты. Яе ладзілі намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, лідэр фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» і старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч, сустаршыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Новая грамада) Мікалай Статкевіч, намеснік старшыні Беларускага народнага фронту Юры Хадыка і некаторыя іншыя палітыкі. Яны паведамілі аб тым, што згодна з пададзенай у Мінгарвыканком заяўкай на правядзенне святочных мерапрыемстваў і дасягнутымі дамоўленасцямі з гарадскімі ўладамі, 27 ліпеня а палове адзінаццатай каля сквера Янкі Купалы адбудзецца збор удзельнікаў дэманстрацыі, якія, сфарміраваўшыся ў калоны, потым рушаць па вуліцах Янкі Купалы і Максіма Багдановіча да Палаца спорту. Тут і адбудзецца ўрачысты мітынг, пачатак якога запланаваны на палову дванаццатай гадзіны і прадоўжыцца да 14 гадзін. Гаворачы пра гэта, Мікалай Статкевіч заўважыў: «Безумоўна, галоўнае свята краіны павінна адзначацца на галоўных праспектах і плошчах сталіцы.

Але мы адразу зразумелі, што нас туды не пусцяць. Да таго ж, мы разумеем, што гэта знаходзіцца не ў кампетэнцыі гарадскіх уладаў, а больш высокіх эшалонаў.» А Генадзь Карпенка паведаміў, што пакуль не ведае, ці будзе наша дзяржава афіцыйна, на ўзроўні ўрада святкаваць Дзень Незалежнасці. Усе ўдзельнікі прэс-канферэнцыі выказалі задавальненне тым, што ўдалося дасягнуць згоды і аб'яднаць намаганні дэмакратаў па святкаванню. Такім чынам, у адной калоне, не прэтэндуючы на абсалютнае лідэрства, 27 ліпеня пройдуць і сацыял-, і ліберал-, і нацыянал-дэмакраты.

Вядома, на сустрэчы з журналістамі закраналіся і іншыя пытанні. Так, удзельнікі паведамілі аб падрыхтоўцы «круглага стала», дзе сустрэнецца кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і прадстаўнікі ўсіх палітычных партый і плыняў Рэспублікі Беларусь. Паводле папярэдняй інфармацыі, якая стала вядома «Звяздзе», гэтае мерапрыемства запланавана на 24 ліпеня. Былі выказаны і адносіны да прапанаванага Прэзідэнтам рэферэндума. Напрыклад, сп. Карпенка заявіў, што «як грамадзянін сваёй дзяржавы гатоў выступаць супраць рэферэндуму».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## БАНК ЗАСТАЎСЯ ДЗЕЯЗДОЛЬНЫМ

**У БЕЛТА паступіла інфармацыя з ІТАР-ТАСС аб тым, што Цэнтральны банк Расійскай Федэрацыі распаўсюдзіў заяву аб дзейнасці АБ «Інкамбанк».**

У ёй, у прыватнасці, гаворыцца: «У першым паўгоддзі бягучага года Галоўным упраўленнем ЦБ Расіі па г. Маскве праведзена праверка АБ «Інкамбанк». Даныя падагульняючага дакумента праверкі і вынікі дзейнасці АБ «Інкамбанк» за першае паўгоддзе 1996 года даюць магчымасць зрабіць вывад аб тым, што банк устойліва кіруе сваёй ліквіднасцю, забяспечвае дастатковую даходнасць, надзейнасць і ўстойлівасць функцыянавання і здольны выконваць у поўным аб'ёме абавязацельствы перад укладчыкамі і іншымі крэдыторамі. Гэта пацвярджаецца тым фактам, што АБ «Інкамбанк» не мае затрымак плацяжоў перад кліентамі. Разам з тым існуюць парушэнні ў фарміраванні статутнага фонду, рэзервовага фонду, ажыццяўленні аперацый і вядзенні бухгалтарскага ўліку ў АБ «Інкамбанк». АБ «Інкамбанк» атрымаў указанне ГУ ЦБ па г. Маскве па ліквідацыі ўказаных недахопаў».

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб зацвярджэнні Палажэння аб праходжанні службы ў органах Пракуратуры Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць Палажэнне аб праходжанні службы ў органах Пракуратуры Рэспублікі Беларусь (прыкладаецца).

2. Прызнаць страціўшым сілу Палажэнне аб праходжанні службы ў органах Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, зацверджанае Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 27 кастрычніка 1993 года (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1993г., № 34, арт.443).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

25 чэрвеня 1996 г., г. Мінск. № 396-XIII

**(Гл. 10-ю стар.)**

## СПАЧУВАННЕ Ў СУВЯЗІ З АВІЯКАТАСТРОФАЙ У ЗША

*Высокапаважанаму Уільяму Джэферсану Клінтану, Прэзідэнту Злучаных Штатаў Амерыкі, Вашынгтон*

Шаноўны пан Прэзідэнт,

Глыбокім смуткам і болем у сэрцах беларускіх грамадзян адгукнулася паведамленне аб трагічнай авіякатастрофе самалёта авіякампаніі ТВА, што выклікала вялікія чалавечыя ахвяры.

Выказваю шчырыя спачуванні Вам, пан Прэзідэнт, усяму амерыканскаму народу, сем'ям, родным і блізкім трагічна загінуўшых людзей.

З павагай,

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*Мінск,*
*19 ліпеня 1996 года.*

## БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА: ПАМІЖ ДЗВЮХ МОЎ

**Пытанне, на якой мове будуць вучыцца ў школе нашы дзеці, хвалюе, безумоўна, многіх.**

Зараз з 4808 школ, якія дзейнічаюць на Беларусі, 3029 школ, або 63 працэнты ад агульнай колькасці, беларускамоўныя і 594 школы, або 12,4 працэнта ад агульнай колькасці, рускамоўныя. На дзвюх мовах — рускай і беларускай ідзе выкладанне вучэбных прадметаў яшчэ ў 1184 школах (24,6 працэнта) нашай краіны.

У Мінску сітуацыя значна адрозніваецца ад агульнай па рэспубліцы: выключна з беларускай мовай навучання тут не існуе ніводнай школы, на дзвюх мовах дзейнічаюць 172 школы і на рускай мове дзяцей вучаць у 49 сталічных школах.

Як паведамілі ў Міністэрстве адукацыі і навукі РБ, у наступным навучальным годзе ніякіх асаблівых змен у выкладанні школьнага курсу на той ці іншай мове не плануецца. У падыходзе да гэтага пытання работнікі адукацыі апіраюцца на выніку апошняга рэферэндуму, а таксама на рэкамендацыі вучоных. У школах з дзвюма мовамі навучання ніводная з іх не будзе ў загоне: тут будзе дзейнічаць «прынцып люстэркавага адлюстравання», г. зн. у школьнай праграме будзе захоўвацца прапорцыя паміж рускімі і беларускімі гадзінамі. А ў беларускамоўных школах, зразумела, больш часу будзе ўдзяляцца роднай мове.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю*

## ТАНСУ АКАНДАН: «ВІЗІТ У ТУРЦЫЮ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ АДКРЫЕ НОВЫЯ МАГЧЫМАСЦІ ДЛЯ БЕЛАРУСКА-ТУРЭЦКІХ АДНОСІНАЎ»

**Як паведамлялася ўжо, 24 ліпеня Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка наведае з афіцыйным візітам Турцыю. Аб гэтай краіне і яе ўзаемаадносінах з нашай рэспублікай карэспандэнт БЕЛТА гутарыць з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Турэцкай Рэспублікі ў Беларусі Тансу АКАНДАНАМ.**



**— Пан пасол, на жаль, веды грамадзян маёй дзяржавы аб вашай краіне нельга назваць глыбокімі. Хоць мы ўжо прывыклі да таго, што турэцкая прадукцыя ўсё часцей з'яўляецца на прылаўках нашых магазінаў, а беларускія турысты адпачываюць на цудоўных турэцкіх курортах. Напярэдадні першага афіцыйнага візіту Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў Турэцкую Рэспубліку хацелася б больш даведацца аб палітычным і эканамічным жыцці Турцыі.**

— У палітычных адносінах Турцыя зрабіла вялікі прагрэс на шляху парламенцкай дэмакратыі. Вялікі нацыянальны сход Турцыі — гэта крыніца палітычнай улады. Прэзідэнт выбіраецца парламентам тэрмінам на 7 гадоў. Органы ўрада фарміруюцца сярод палітычных партый і праз парламенцкі вотум давер'я. Наш цяперашні ўрад быў сфарміраваны кааліцыяй дзвюх галоўных партый. Ён атрымаў вотум давер'я 8 ліпеня 1996 года.

Традыцыя парламенцкай дэмакратыі ідзе каранямі ў год заснавання Турэцкай Рэспублікі (1923). Усе радыкальныя рэформы адносна пераходу ад манархічнай сістэмы да рэспубліканскай, роўна як і іншыя сацыяльныя і эканамічныя пераўтварэнні, пачынаючы з часоў заснавальніка нашай рэспублікі Атацюрка, базіраваліся на рашэннях, прынятых парламентам.

У эканамічных адносінах Турцыя прадстаўляе сабой краіну вялікіх магчымасцей. Насельніцтва яе — 64 мільёны чалавек. Акрамя таго, Турцыю можна назваць краінай, якая хутка развіваецца: у 1995 годзе прырост яе валавога нацыянальнага прадукту ў параўнанні з папярэднім годам склаў 8,1 працэнта.

Эканамічны патэнцыял Турцыі адбіваецца і на яе міжнародных эканамічных адносінах. Агульны аб'ём знешняга гандлю дасягнуў 50 мільярдаў долараў ЗША. Толькі з Расійскай Федэрацыяй ён перавысіў 3 мільярды долараў, а з Украінай дасягнуў узроўню звыш 1 мільярда долараў. Я не бачу прычын, якія б перашкаджалі дасягненню ў будучыні такіх вынікаў і ў беларуска-турэцкіх знешнегандлёвых адносінах.

**— Якое значэнне надаюць у Турцыі візіту кіраўніка нашай дзяржавы, ці можна гаварыць аб тым, што пасля асабістай сустрэчы кіраўнікоў дзвюх краін узаемаадносіны будуць развівацца зусім у іншым напрамку?**

— У Турцыі з вялікай цікавасцю стаяцца да візіту беларускага Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Магу сказаць, што гэта гістарычная падзея. Такая сустрэча на ўзроўні кіраўнікоў нашых дзяржаў праводзіцца ўпершыню. Мы спадзяёмся, што яна надасць новы імпульс беларуска-турэцкім адносінам. Безумоўна, перагаворы будуць садзейнічаць паглыбленню двухбаковага супрацоўніцтва ў розных галінах. І я спадзяюся, што асабістыя кантакты паміж лідэрамі дзвюх дзяржаў узнімуць на новы ўзровень не толькі афіцыйныя адносіны, але і кантакты паміж народамі нашых краін.

**— Якія дзелавыя сустрэчы запланаваны ў ходзе візіту кіраўніка нашай дзяржавы, ці падрыхтаваны вашымі бізнесменамі канкрэтныя прапановы па расшырэнню беларуска-турэцкага супрацоўніцтва?**

— Сустрэчу Аляксандра Лукашэнкі з турэцкімі бізнесменамі, што запланавана ў час візіту, арганізуе Савет па знешнеэканамічных пытаннях, які прадстаўляе ўсе ўстановы прыватнага сектара Турцыі. Сярод іх — гандлёва-прамысловая палата, канфедэрацыя асацыяцый наймальнікаў, Асацыяцыя знешняга гандлю, Фонд эканамічнага развіцця, асацыяцыя турэцкіх падрадчыкаў і шэраг іншых. У час маёй работы ў Беларусі я сустрэў мноства турэцкіх прадпрымальнікаў, якія прыбылі з канкрэтнымі прапановамі адносна расшырэння супрацоўніцтва з вашай краінай. І я думаю, што цяпер чарга беларускага боку прапанаваць турэцкаму прыватнаму сектару свае магчымасці па дзелавому супрацоўніцтву. Дарэчы, у большасці выпадкаў такія прапановы прымаюцца. У мяне таксама склалася ўражанне, што адпаведныя арганізацыі Беларусі падрыхтавалі пакет прапаноў для турэцкіх прадпрымальнікаў. Магу запэўніць, што бізнесмены Турцыі будуць зацікаўлены ў атрыманні інфармацыі ад беларускага боку з першых рук.

**— Цікава было б даведацца, на якім этапе знаходзяцца адносіны паміж нашымі дзяржавамі цяпер і ў якіх галінах эканомікі далейшае супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Турцыяй, на вашу думку, можа быць найбольш выгадным?**

— Мой каментарый будзе заснаваны на беларускай статыстыцы. Калі даецца інфармацыя аб асноўных гандлёвых партнёрах Беларусі, Турцыю часта не называюць, паколькі ў якасці крытэрыя бярэцца агульны аб'ём гандлю з той або іншай краінай. Пры такім падыходзе Турцыя займае толькі 22-е месца. Аднак, калі разглядаць аб'ём экспарту з Беларусі, то тут Турцыя на 13-м месцы, уключаючы краіны СНД. Прычым беларускі экспарт ацэньваецца сумай 46 мільёнаў долараў ЗША. А калі разглядаць гандлёвае сальда Беларусі з усімі краінамі свету, то Турцыя аказваецца на 6-м месцы з адмоўным сальда амаль 39 мільёнаў долараў ЗША. Так што гэты факт можна разглядаць як уклад Турцыі ў знешнегандлёвы абарот вашай краіны.

Што датычыць галін эканомікі, то я ўпэўнены: будаўніцтва, будаўнічыя тэхналогіі і матэрыялы (дарэчы, некалькі турэцкіх кампаній даказалі свае магчымасці ў гэтай сферы), мадэрнізацыя дарог, інфраструктура паветранага транспарту, харчовая прамысловасць, фармацэўтычная, цэлюлозна-папяровая галіны, паліўна-хімічная прадукцыя і г. д. стануць плённай базай для расшырэння беларуска-турэцкага супрацоўніцтва.

**— Як вядома, Турэцкая Рэспубліка з'яўляецца членам НАТО. Як у вашай краіне была ўспрынята ініцыятыва Прэзідэнта Беларусі аб стварэнні бяз'ядзернай зоны ў Цэнтральнай Еўропе? І ці не ўзнікне ў час перагавораў некаторае неразуменне з-за розных падыходаў да расшырэння Паўночнаатлантычнага блока на ўсход?**

— Як было заяўлена на адным з брыфінгаў у беларускім Міністэрстве замежных спраў, мы дакладна прасочваем сітуацыю і, у прыватнасці, ініцыятыву Беларусі па стварэнню бяз'ядзернай зоны ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Гэта прапанова вельмі новая для таго, каб выпрацаваць пэўную пазіцыю «за» або «супраць». Што ж датычыць адкрытасці НАТО для новых членаў, то пасля заканчэння «халоднай вайны», у час пацяплення палітычнага клімату ўсе краіны Еўропы павінны мець свабоду ў вызначэнні як знешняй палітыкі, так і сваёй бяспекі. Я не бачу прычыны, па якой абмеркаванне гэтага пытання магло б выклікаць неразуменне. Дарэчы, адкрытасць НАТО для новых членаў не з'яўляецца пагрозай каму-небудзь. Расшырэнне блока патрабуе доўгага часу, у ходзе якога краіны, якія не з'яўляюцца сёння яго членамі, маглі б знайсці дадатковыя магчымасці далейшага развіцця адносінаў з НАТО.

**— У Турцыі пакуль што не адкрыта пасольства нашай рэспублікі. Тым не менш, гэта акалічнасць не павінна стаць «каменем спатыкнення» ва ўзаемным дыялогу двух бакоў. Як вам, пан пасол, дыпламату, які пражыў у Рэспубліцы Беларусь не адзін год, бачацца перспектывы ўзаемаадносінаў нашых дзяржаў?**

— Гэта таксама балючае пытанне для мяне. Я ўжо гаварыў, што паколькі паміж нашымі краінамі ёсць толькі адно пасольства, то нашы адносіны «кульгаюць на адну нагу». Я таксама згодны з вамі, што гэта не павінна стаць перашкодай у дыялогу паміж Беларуссю і Турцыяй. Фактычна колькасць турэцкіх грамадзян, якія знаёмы з вашай краінай, павялічваецца з кожным годам, нягледзячы на адсутнасць беларускага пасольства ў Турцыі. Нашу краіну наведала мноства беларускіх мастацкіх калектываў, няўхільна расце двухбаковы гандаль. І я абсалютна ўпэўнены, што пасля наведання Турцыі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам адкрыюцца новыя магчымасці для стварэння яшчэ больш прывабнай будучыні нашых двухбаковых адносінаў.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

Мінск.

*БЕЛАРУСЬ І СВЕТ*

## РАЗРЫЎ ПАМІЖ ЗАМОЖНЫМІ І БЕДНЫМІ КРАІНАМІ ПАГЛЫБЛЯЕЦЦА

**Падрыхтаваны даклад ААН аб параўнаўчым аналізе эканамічнага становішча ў розных краінах.**

***Апублікаваны чарговы, 7-ы па ліку штогадовы Даклад аб развіцці і сацыяльна-эканамічным становішчы людзей у розных краінах свету. З даклада вынікае, што больш чым у 100 краінах са 174, па якіх былі сабраны даныя, за апошнія 15 гадоў знізіліся даходы на душу насельніцтва. У 19 краінах даход на душу насельніцтва знізіўся ў параўнанні з 1960 годам і нават з больш раннім перыядам. У выніку больш чым чвэрць насельніцтва Зямлі сёння жыве горш, чым 15 гадоў назад.***

Прыводзіцца таксама рэйтынг, устаноўлены Праграмай развіцця ААН (ПРААН) для краін сусветнага супольніцтва з пункту гледжання сацыяльна-эканамічнага становішча іх насельніцтва. Рэйтынг падзяляе 174 краіны свету на тыя, якія маюць высокія паказчыкі, на краіны з сярэднімі паказчыкамі і на краіны з нізкімі паказчыкамі.

Краін з высокімі паказчыкамі прызнана 57. Узначальваюць гэты спіс Канада, ЗША, Японія, Нідэрланды, Нарвегія, Фінляндыя, Францыя, Ісландыя, Швецыя, Іспанія. Завяршаюць спіс Латвія (55-е месца) і Расійская Федэрацыя (57-е месца), а паміж імі ўклінілася Польшча.

У спіс краін з сярэднімі паказчыкамі (месцы з 58-га па 126-е) увайшлі ўсе астатнія 13 былых саюзных рэспублік СССР: Беларусь (61-е), Эстонія (68-е), Казахстан (72-е), Украіна (80-е), Літва (81-е), Туркменія (90-е), Арменія (93-е), Узбекістан (94-е), Азербайджан (96-е), Малдова (98-е), Кіргізія (99-е), Грузія (101-е), Таджыкістан (105-е).

У спісе з нізкімі паказчыкамі (са 127-га па 174-е месцы) прыкладна 35 краін Афрыкі, а таксама шмат краін Паўднёвай Азіі.

Пры вызначэнні якасці развіцця ў дакладзе ўлічваліся асноўныя фактары: дзіцячая смяротнасць, узровень адукацыі, узровень даходаў з папраўкай на інфляцыю. Але пад увагу браліся таксама даныя аб занятасці насельніцтва, узроўні аховы здароўя, тэмпах эканамічнага росту і іншыя сацыяльна значымыя паказчыкі.

**Валянцін НАЛІМАЎ.**

*ТУРЫСТЫЧНА-ДЗЕЛАВАЯ СПРАВАЗДАЧА*

## Пра аўтатранспартнае прадпрыемства «Саўаўта-Брэст», якое хоча мець заўсёды надзейныя колы, Белавежскую пушчу і дуб у ёй, які дапамагае мужчынам...

**Праблема выжывання ў цяперашніх няпростых умовах, захаванне назапашанага эканамічнага патэнцыялу стаіць сёння не толькі перад яўнымі аўтсайдэрамі эканомікі, але і перад тымі прадпрыемствамі і арганізацыямі, якія яшчэ зусім нядаўна мелі даволі трывалыя пазіцыі, і нават маюць такія пазіцыі цяпер. Чаму такая праблема паўстала і перад імі, ці сітуацыя абавязкова павінна «дастаць» усіх?**

Акцыянернае таварыства «Саўаўта-Брэст», якое ў канцы мінулага тыдня наведала група журналістаў з рэспубліканскіх СМІ, — якраз з ліку апошніх, г. зн. з ліку тых, хто і цяпер мае дастатковы запас трываласці (тут жа варта ўдакладніць: АТ «Саўаўта-Брэст» — найбольш буйное ў рэспубліцы аўтапрадпрыемства, прычым занята яно пераважна на міжнародных перавозках). Але і на ім заклапочаны цяпер тым, каб гэты запас не згубіць. Што здарылася, сталі горш працаваць?

Паказчыкі работы аўтапрадпрыемства сведчаць якраз аб адваротным: яго даходы растуць. Разам з тым, аўтатранспартнікі ўжо не могуць гэтак жа лёгка, як раней, абнаўляць, мадэрнізаваць свой рухомы састаў, што іх у першую чаргу і хвалюе, бо без такога абнаўлення, як справядліва заўважаюць тут, яны могуць страціць свае цяперашнія пазіцыі сярод міжнародных аўтаперавозчыкаў, уступіць іх іншым. Карацей, аўтамабіль — асноўны кармілец аўтатранспартнікаў, і трэба, каб ён стаяў на «цвёрдых», надзейных колах...

Аднак вось якая, з дазволу, дэталь: аўтамабіль — кармілец не толькі аўтатранспартнікаў, але і бюджэту, у які АТ «Саўаўта-Брэст» штомесяц пералічвае па 2 мільярды рублёў. І, відавочна, менавіта адсюль і пэўныя праблемы. Як вынікае з гутарак у Брэсце, істотнай перашкодай для далейшага ўстойлівага развіцця АТ і з'яўляецца імкненне ўзяць у бюджэт як мага больш, прычым без уліку эканамічных абставінаў, іншых умоў, найперш звязаных з заканадаўствам, адпаведным прававым полем іншых, замежных краін. Яны, гэтыя ўмовы, не застаюцца пастаяннымі, больш таго — ускладняюцца, а ўказанае імкненне «ўзяць» — нязменнае... У прыватнасці, брастаўчан хвалюе яўная неадпрацаванасць механізмаў лізінгу, у выніку чаго гэта сучасная, шырока распаўсюджаная ў свеце і ўзаемавыгадная для партнёраў форма супрацоўніцтва страчвае для аўтатранспартнікаў свае перавагі, робіць іх неканкурэнтаздольнымі ў адносінах да замежных перавозчыкаў грузаў (удакладнім: лізінг і стаў для АТ «Саўаўта-Брэст» галоўным спосабам абнаўлення аўтамабільнай тэхнікі), хвалююць пэўныя відавочныя перакосы падатковай палітыкі (напрыклад, пры адной і той жа ўмове — пры аказанні транспартнай паслугі на экспарт з айчынных аўтаперавозчыкаў спаганяецца падатак на дабаўлены кошт па стаўцы 20 працэнтаў, калі заказчык транспарту — рэзідэнт, і ў той жа час бярэцца значна меншы падатак, калі абслугоўваецца замежная юрыдычная асоба, што, вядома, не спрыяе ўмацаванню партнёрства з айчыннымі заказчыкамі або экспедытарамі грузаў)...

Аднак праблематыка міжнародных перавозак патрабуе больш дэталёвай размовы, больш падрабязнага асвятлення, і яна атрымае працяг у газеце; адпаведна, аўтапрадпрыемства «Саўаўта-Брэст» будзе прадстаўлена больш шырока. Хіба што ў цяперашняй публікацыі варта падкрэсліць: «Саўаўта-Брэст» — гэта на сённяшні дзень дынамічнае, устойлівае прадпрыемства, якое трывала стаіць на нагах, зарабляе для краіны валюту, якое мае значныя перспектывы ў сувязі з далейшым, безумоўна больш інтэнсіўным уваходжаннем краіны ў рынак, а значыць — і большай адкрытасцю яе эканомікі і намнога большым выкарыстаннем Брэста як галоўных варотаў на Захад... Можна «дапамагчы» брастаўчанам згубіць і гэтыя набыткі, і гэты патэнцыял — хто выйграе? Вядома, прайграюць і прадпрыемства, і краіна. Сітуацыя, пра якую ўзгадана ў самым пачатку, зусім не абавязкова павінна «даставаць» усіх, сітуацыю ствараюць самі ж людзі.

Праграма паездкі ў Брэст, якую, дарэчы, арганізавалі работнікі грамадскага прэс-цэнтра «Дома прэсы» (вядома, разам з прадстаўнікамі самога «Саўаўта»), уключала ў сябе не толькі наведванне аўтатранспартнага прадпрыемства, але і аўтапрапускнога пункта «Казловічы» на заходняй граніцы, дзе нас шчыра сустрэла кіраўніцтва таможні і гэтак жа шчыра расказала аб сваёй рабоце (ад гэтага, аднак, нікольні не зменшылася здзіўленне адносна шматкіламетровай чаргі грузавікоў на выезд — яўна даўгаваты хвост, слаба ўспрымаюцца адпаведныя, нават вельмі абгрунтаваныя тлумачэнні...), а таксама Белавежскай пушчы і знакамітых Віскулёў... Адразу прызнаюся: залу, у якой некалі «ўсё» і адбывалася, так і не ўбачылі. Як было растлумачана, «туды», г. зн. у віскулёўскі асабняк (ці хутчэй дамок, бо на дачных участках можна ўбачыць і больш маштабныя пабудовы), — нельга. Каб не наслядзілі... «Там» усё прыбралі і падрыхтавалі да сустрэчы міністраў замежных спраў... Трэба ж так патрапіць... Тым не менш, побач з асабняком свае сляды мы пакінулі. І нават сфатаграфаваліся. На фоне.

Увогуле, цікавыя мясціны ў Белавежскай пушчы. Сапраўды царскія мясціны... Так, сюды ў свой час ездзілі паляваць рускія цары, а ў наш час — ужо нашы валадары. У прыватнасці, Мікіта Хрушчоў, якому, як паведаміў наш гід, насельнікаў Белавежскай пушчы падчас палявання Мікіты не прывязвалі да дрэва, хоць такая пагалоска і існуе. Мікіта быў добрым стралком...

Аднак, як бы там ні было, можна меркаваць, што ў любым выпадку паляванне было царскае.

У Белавежскай пушчы ёсць што паглядзець, і проста здзіўляе адсутнасць сюды, скажам так, гэткай жа чаргі, як на «пераход» у Казловічах, г. зн. малалікасць наведвальнікаў, адносна чаго, дарэчы, наракала і кіраўніцтва Пушчы. Хутчэй, усё тлумачыцца ранейшай адноснай закрытасцю гэтых «царскіх мясцін». Але цяпер жа доступ у іх абсалютна свабодны, і ў тых жа Віскулях далёка не кожны дзень засядаюць міністры... Як паведаміў намеснік дырэктара Пушчы Б. Савіцкі, тут нават можна зняць для адпачынку дом, прычым зусім нядорага. Наведвальнікам і адпачываючым прапануюцца розныя турыстычныя паслугі...

Аднак прадчуваю пытанне: а як там адносна сапраўдных гаспадароў пушчы — зуброў?.. Статак жыве і развіваецца, а ў дадзены момант «мігрыраваў» на акаляючыя палі паласавацца якім-небудзь далікатэсам (праўда, відаць, гаспадароў далікатэсных палёў гэта ніколькі не радуе).

У Белавежскай пушчы ёсць і іншыя «знакамітасці». Напрыклад, больш чым 600-гадовы неабдымны дуб, які, згодна з мясцовымі пагалоскамі, надзвычай павышае мужчынскія здольнасці. Трэба толькі прыхінуцца да дуба і крыху пастаяць так. Мы, г. зн. журналісты (дарэчы, і журналісткі таксама, хоць пагалоска толькі пра мужчын), прыхінуліся. Мы ж таксама людзі...

Шкада, што нашу Белавежскую пушчу наведвае мала людзей. Дакладней — шкада тых, хто не наведвае яе. Цудоўныя мясціны.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

## Іосіф ПАЛАЧАНІН:

# «ПРА НЕПАРЫТЭТ ЦЭН У СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ ГАВАРЫЦЬ НАДАКУЧЫЛА. ДАВАЙЦЕ ПРА БОЛЬШ РЭАЛЬНАЕ І БАЛЮЧАЕ...»

***ІОСІФ МІКАЛАЕВІЧ ПАЛАЧАНІН працуе намеснікам старшыні Докшыцкага райвыканкома, начальнікам раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання. Дэпутат Вярхоўнага Савета, член аграрнай фракцыі, уваходзіць у Камісію па эканамічнай палітыцы і рэформах. Заўсёды мае сваё меркаванне і не баіцца яго выказаць. Сёння з Іосіфам Мікалаевічам гутарыць наш карэспандэнт.***

**— Іосіф Мікалаевіч, давайце не парушаць традыцыі, і тут, каля зямлі, пачнём са спраў зямных, надзённых. Ведаю, што Докшыцкі раён няпроста выходзіў з гэтай зімы. Жывёле на фермах кармоў, мякка скажам, неставала. А як справы цяпер?**

— Сёлетні дажджлівы год ураджай абяцае добры, ды і з кармамі справы ідуць нармальна. А тры папярэднія гады вельмі моцна ўдарылі па гаспадарках раёна — засуха. І тут трэба ўлічваць яшчэ адну акалічнасць, спецыфіку раёна. У нас шчыльнасць жывёлы на 35 працэнтаў вышэй, чым у цэлым па Віцебскай вобласці. На 100 гектараў сельгасугоддзяў 84 галавы буйной рагатай жывёлы. У нас 15 тысяч свіней. І калі нехта папракае, маўляў, адстаяце з нарыхтоўкай кармоў, я прапаную падлічыць нашы кармы ў якім-небудзь перадавым раёне. Атрымліваецца, што нарыхтавалі мы не менш, а больш, і значна. Але не ў гэтым справа. Мы так і не адвучыліся лічыць грамы, тоны, галовы. Мы ўсё яшчэ не ўмеем лічыць грошы. А між іншым, у нашым раёне самае нізкае адмоўнае сальда па фінансах. Так, і ў нас запазычанасць, але меншая.

Навучыцца лічыць грошы гэта ўжо азначае і сеяць не для справаздачы, не для самой засеянай плошчы, а для таго, каб гектар даў грашовую аддачу. Ну, не расце тут ячмень, дык пасей авёс, іншае, толькі не марнуй дарма сродкі і працу людзей. І калі на адной ферме працуе дзве даяркі і пры аднолькавых умовах, кармах адна надойвае 3000 кілаграмаў малака, а другая 1500, то апошняя рана ці позна пацягне за сабою першую. Таму яе трэба звальняць, а групу перадаваць іншаму чалавеку. А няма яго, здаваць жывёлу на мясакамбінат. Інакш мы не выжывем.

**— У нечым ваша пазіцыя для мяне вядомая, яна яшчэ больш акрэсліваецца пасля таго, як вы сталі дэпутатам. Але ўсё-такі павінен закрануць гэтую тэму. Як толькі заводжу размову аб лёсе калгасаў, асабліва са старшынямі, адразу чую пра непарытэт цэн.**

— Пра непарытэт цэн у сельскай гаспадарцы гаварыць надакучыла. Давайце пра больш рэальнае і балючае. Ну, сапраўды, няўжо прэм'ер альбо міністр сельскай гаспадаркі не ведаюць пра гэта. Ды выдатна ведаюць. Але магчымасці прывесці ўсё ў нармальны стан няма. Камуністы стаяць на пазіцыі: дайце — і ў калгасах усё будзе цудоўна. Напэўна, але ж ці не выйдуць на вуліцы гараджане?

Трэба думаць пра больш рэальнае. Пра больш паслядоўную і дзейсную палітыку дзяржавы ў адносінах да сельскай гаспадаркі, пра рэформы калгасаў і саўгасаў, бо ў сённяшнім стане яны існаваць не змогуць. Нехта разваліцца раней — тыя, хто ўжо сёння проста існуюць для існавання; тыя, хто яшчэ трымаецца за кошт набытага раней высокага патэнцыялу, — пазней. Прыязджаю я на ферму ў калгас «Камунар». «Дзяўчаты, вам жа пад прывагі ў 620 грамаў былі выдзелены кармы, усё неабходнае. Вы атрымалі па 420. У чым прычына? Украдзеныя кармы, парушэнне тэхналогіі?» А мне ў адказ смяюцца: «А вось у «Краснабярэзінскім» зусім нічога не атрымліваюць і трымаюцца ж». Канешне, «Краснабярэзінскі» зваліцца раней. Але і «Камунар», дзе патэнцыял вышэйшы, іншыя нашы былыя лідэры зваляцца — толькі крыху пазней, калі праядуць тое, што пабудавана, узведзена з дапамогай дзяржавы ў лепшыя гады. Я не думаю, што будзе вяртанне да сацыялізму ў тым, ранейшым яго выглядзе. Я перакананы ў неабходнасці рэформаў. І ўвогуле, што такое капіталізм? Калі шведскі, дзе мне давялося бываць, то гэта лепшы ўзор камунізму, абяцанага нам.

**— Рэформы, рэформы. Цэлая сцяна праціўнікаў сустракае нават размовы аб іх, асабліва калі гаворка ідзе пра сельскую гаспадарку. У цяперашнім Вярхоўным Савеце я назіраю дзіўны падзел. Аграрная фракцыя ўжо неяк ацэньвае сітуацыю, бачыць непазбежнасць перамен, а фракцыя камуністаў цвёрдая ў адмове. Хаця і ў апошняй вялікая частка аграрыяў.**

— Сапраўды такое назіраецца, і нас ледзь не ў здраднікі запісваюць. Паўтару, трэба рэальна глядзець на рэчы. Я заўсёды выступаў за тое, каб на зямлі быў гаспадар. У нас жа большасць калгаснікаў сапраўдны інтарэс бачыць толькі ў межах уласнай гаспадаркі. А калі яшчэ і зарплату невялікую даюць рэгулярна, то да таго, што робіцца ў калгасе, у яго ніякай справы няма. Разбіў старшыня машыну, купіў новую — ну і хай сабе. Не маё. Вялікая памылка, што да гэтага часу ў нас няма ў раёнах па аднаму—два калгасы, якія збанкрутавалі б, спынілі сваё існаванне. Але закона такога не было. Цяпер вось толькі з цяжкасцю нараджаецца. А банкруцтва ж гэта не тое, што большасць думае. Назначаецца кіраўнік і на працягу паўтара года робяцца захады па санацыі гаспадаркі, вяртання яе да жыцця. За наўмыснае банкруцтва ёсць крымінальнае пакаранне. А ў нас цяпер бярэцца крэдыт, хоць загадзя вядома, што не пад рэальную справу. Нехта грэе рукі, грошы знікаюць, а вінаватых няма. Іншая справа, што пры ліквідацыі калгаса трэба не забыць пенсіянераў. Стварыць нейкую брыгадку, тыя грошы, што дзяржава давала калгасу, перакінуць сюды для падтрымкі менавіта пенсіянераў. А большасць працаздольных даўно страціла сувязь з калгасам у такіх разбураных гаспадарках. У кожнага конь, матаблок, свая моцная гаспадарка. Калгас проста дадатковая крыніца прыбытку, хоць і ненадзейная. І вось тады саракагадовыя, маладыя, хто гэты калгас давёў да ручкі, няхай пасмакуюць біржы.

Я бываў ва Усходняй Германіі. Там пайшлі вельмі разумным шляхам. У іх на месцы ранейшых гаспадарак — кааператывы. А там — акцыянеры і наёмныя рабочыя. Безумоўна, падзялі ў нас гаспадаркі на паі, раздай — вельмі хутка многія прап'юць і прагуляюць свае долі. Што ж, Богам дадзена, што не кожны чалавек можа быць уладальнікам маёмасці. Ідзі ў наёмныя рабочыя, але тваёй абыякавасцю кааператыў ужо не будзе разбурацца. У былой сацыялістычнай Германіі менавіта кааператывы даюць 80 працэнтаў сельгаспрадукцыі. Такія кааператывы, напэўна, павінны быць спачатку закрытымі, — каб не дапусціць парушэнняў, таго ж адмывання грошай, ну а потым яны вымушаныя будуць шукаць інвестараў.

І не трэба баяцца, што пры прыняцці новага зямельнага заканадаўства зямлю расхапаюць. Ля гарадоў так, там попыт будзе. А ў нас шмат знойдзецца арандатараў? У Германіі арэнда гектара зямлі да 40 балаў эквівалентная ў год 500 кілаграмам зерня. Але ніякай чаргі няма. Праца на зямлі заўсёды будзе непрэстыжнай — малааплатная і цяжкая.

**— Але вернемся да цяперашняй палітыкі ўрада ў сельскай гаспадарцы.**

— Я крытыкую гэту палітыку. Яна не рэфарматарская.

Гаспадаркі нашага раёна не мелі дазволу ў мінулым годзе распарадзіцца вырашчаным лёнам. І да гэтага часу яго на 3.200 мільёнаў ляжыць на Падсвільскім ільнозаводзе. Неаплачанага вытворцам, зразумела. Мільярдныя даўгі па малаку. Малако з нашых гаспадарак у Лепелі перапрацавана на сухое. Няма попыту. Трэба на 20 цэнтаў скінуць цану. І перапрацоўшчыку ў цяперашніх умовах гэта выгадна. З намі разлічыўся б. Але існуе цана дзяржавы. Я разумею, у свой час, адкрыўшы права гандлю за мяжой, цану на калійныя ўгнаенні там «збілі» да цаны пяску. Але гэта сухое малако прыносіць страты, трэба шукаць выйсце. Ці сітуацыя з бульбай. У мінулым годзе яе таксама ў калгасах забралі без аплаты, хаця бачна было, што столькі бульбы гарадам не патрэбна. І вось цяпер калгасу «Іскра» толькі за яе павінны 320 мільёнаў рублёў. Няма рэалізацыі. Як няма рэалізацыі і мясамалочных прадуктаў, якія калгасы таксама бясплатна аддавалі ў фонды на наступную зіму. Усё гэта з-за адсутнасці сапраўднай маркетынгавай службы.

**— Іосіф Мікалаевіч, як да дэпутата Вярхоўнага Савета не магу не звярнуцца са шматлікімі скаргамі вяскоўцаў. Нават пенсіянеры сёння павінны плаціць падатак за пашу. Адвечнае права вяскоўца выгнаць сваю кароўку да лесу, у хмызняк — не на сеяныя травы, аказалася пад прыцэлам дзяржавы.**

— Так, да прыняцця гэтага закона прыклалі руку і мы. Ёсць тут пэўныя апраўданні, спецыфіка праходжання бюджэту, але прыклалі. Я быў супраць, некалькі разоў выступаў. Не пачулі. Гэта несправядліва. Бо не толькі на пашу падатак. Увогуле, журналісты ці яшчэ хто ствараюць ілюзію, нібыта сельская гаспадарка — гэта бяздонная бочка, куды ідуць мільярды і мільярды народных грошай, а аддачы ніякай. Дык вось, 11 відаў падаткаў плаціць сельская гаспадарка. І ў нашым раёне атрымана менш інвестыцый у яе, чым яна выплаціла дзяржаве гэтых самых падаткаў. А цяпер яшчэ з падачы Мінфіна падаткі будуць здымацца з калгасаў за бясплатнае харчаванне, напрыклад, механізатараў у полі, за тое, што калгасніку прададзена прадукцыя па цане ніжэй устаноўленай, за машыну бясплатна прадастаўленую, каб адвесці хворага калгасніка ў Віцебск.

**— Што сельская гаспадарка ў многім трымаецца на цярплівасці людзей, на іх надзеі на лепшае, а часам і проста на адсутнасці альтэрнатывы, гэта зразумела. Ну а дзе той ланцужок, за які трэба пацягнуць, каб пачаць выхад з крызісу?**

— Даваць рэкамендацыі — няўдзячная справа. Уласна кажучы, усю нашу размову мы ходзім вакол праблем і нявырашаных патрабаванняў часу. Патрэбна заканадаўства, патрэбны рэформы. Але найперш, напэўна, патрэбна рэальная дапамога дзяржавы. Ну чаму б таму прадпрыемству, якое і ў гэтых умовах павялічыла выпуск прадукцыі ў параўнанні з мінулым годам, не даць палёгку, не вызваліць ад падаткаў тую частку прадукцыі, што прыбаўлена. Канешне, на развіццё вытворчасці. Але не. Гэтак сама пакуль што не знаходзіць падтрымкі закон аб развіцці малога бізнесу. Ды нават калі б ён нічога не рабіў, ён бы сям'ю карміў. Ужо менш праблем. І яшчэ. Я супраць заклікаў аб'яднаць сельскую гаспадарку і перапрацоўчую галіну. Ні да чаго добрага гэта не прывядзе. Ад дзяржавы з яе падаткамі мы не ўцячом — знойдуць так ці інакш, адбяруць і ў акцыянераў. А вось павесяць на калгасы перапрацоўку, дзе большасць заводаў развальваецца літаральна — цягніце. Не, селянін павінен працаваць на зямлі. І ён гэта ўмее рабіць. Падумайце, у апошні час пры 50 працэнтах гаруча-змазачных матэрыялаў да ранейшага сеем усё.

Не магу не прывесці прыклад зноў жа Германіі. Там перапрацоўчую галіну нават узбуйняюць. І ахвотна аддаюць інвестарам. З умовай, што пяць гадоў профіль мяняцца не будзе.

**— Апошняе пытанне нельга не задаць, як дэпутату. Як працуецца ў Вярхоўным Савеце?**

— Няпроста. Але трэба сказаць, што Вярхоўны Савет гатоў вырашыць з Прэзідэнтам любое пытанне. Ды як можа быць інакш? Мы ж, пераважная большасць нас у свой час агітавалі за Прэзідэнта, зрабілі нямала для яго выбрання. Потым тыя людзі, што выбіралі яго, аказалі гэты гонар і нам. Але незахаванне законаў, нават калі іх парушэнне ідзе на дабрабыт народу, Вярхоўны Савет дапусціць не можа. Пара скончыць высвятленне пытаня: хто лепшы, а хто горшы.

**Гутарыў Алесь КАСЦЕНЬ.**

---

*З НАГОДЫ*

# МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА МОЖА СТАЦЬ СКАРБОНКАЙ КАРЫСНАГА ВОПЫТУ ДЛЯ СУЧАСНАСЦІ

***500-й ГАДАВІНЕ НАДАННЯ ГРОДНА магдэбургскага права была прысвечана міжнародная навуковая канферэнцыя «Гістарычная памяць народаў Вялікага Княства Літоўскага і Беларусі XIII-XX ст.», якая праходзіла 3—5 ліпеня ў горадзе над Нёманам. Яе арганізатары — Заходнебеларускі гуманітарны цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы, Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы і Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі — запрасілі да абмену думкамі навукоўцаў не толькі нашай краіны, але і Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Англіі, Швейцарыі. Мяркуецца, што матэрыялы канферэнцыі неўзабаве будуць выдадзены асобнай кнігай. З нагоды вышэйпамянёнага юбілею на пытанні адказвае адзін з удзельнікаў канферэнцыі доктар юрыдычных навук, прафесар Гродзенскага дзяржуніверсітэта Мікалай МІЛЬЧАНКА.***

**— У чым сутнасць магдэбургскага права, якое атрымаў горад Гродна ў 1496 годзе?**

— Увогуле пад магдэбургскім правам у юрыдычным сэнсе слова можна разумець сістэму нормаў права, якія рэгулявалі жыццядзейнасць гараджан і местачкоўцаў. Яно не ўяўляла з сябе нейкай адзінай, універсальнай для ўсёй дзяржавы сістэмы, бо ўводзілася шляхам атрымання асобных прывілеяў на самакіраванне за подпісам Вялікага князя для асобных гарадоў і мястэчкаў. Безумоўна, усе яны мелі нейкія агульныя моманты ў самакіраванні, агульныя свабоды і вольнасці ад вялікакняскай улады. Але кожны горад і кожнае мястэчка, якія атрымалі прывілеі на магдэбургскае права, валодалі толькі для іх уласцівымі, адметнымі правамі і вольнасцямі. Гэта было абумоўлена мноствам самых разнастайных фактараў — эканамічных, сацыяльных, дэмаграфічных. Нават геаграфічныя адметнасці таго ці іншага горада і мястэчка аказвалі ўплыў на характар правоў і вольнасцей. Яскравым прыкладам з'яўляецца Прывілей на магдэбургскае права ад 1496 года, які атрымаў г. Гродна. Гарадзенцам згодна з гэтым Прывілеем дазвалялася збудаваць на рацэ Нёман млын і малоць там каму трэба любое збожжа і здымаць пры гэтым чынш з кожнай асобы.

На першы погляд, разнастайнасць зместу Прывілеяў павінна была б весці да фарміравання выключна «местачковых інтарэсаў і местачковай ідэалагемы». Аднак шматвяковая практыка функцыянавання магдэбургскага права ў Еўропе і ВКЛ сведчыць якраз аб адваротным. Магдэбургскае права было моцным сродкам (інструментам) фарміравання агульнадзяржаўных інтарэсаў і агульнадзяржаўнай ідэалогіі. Справа ў тым, што ў Сярэднявеччы галоўнай сілай, якая магла рэальна гарантаваць сам інстытут магдэбургскага права, была вялікакняская ўлада. Ад яе прыхільнасці залежала тое, наколькі грамадзяне і местачкоўцы маглі рэальна карыстацца здабыткамі магдэбургскага права, даравашымі ім правамі і свабодамі. Такім чынам, гараджане і местачкоўцы былі зацікаўлены ва ўзмацненні вялікакняскай улады. У сваю чаргу вялікі князь, безумоўна, бачыў у гараджанах і местачкоўцах тую сілу, з дапамогай якой можна было аказваць палітычны націск на магнатэрыю і бюракратычна-чыноўніцкі апарат. Спалучэнне інтарэсаў вялікакняскай улады і мясцовых інтарэсаў давала вялізны штуршок фарміраванню агульнадзяржаўнай і агульнанацыянальнай ідэалогіі.

Цікавы той факт, як далікатна, тактоўна і вельмі тонка Вялікі князь падкрэсліваў у Прывілеях сваю асабістую даступнасць для гараджан і местачкоўцаў, сваю «залежнасць» ад іх. Амаль у кожным з вядомых нам Прывілеяў на магдэбургскае права, якія ўяўлялі сабой невялікія па аб'ёму дакументы, гэты момант ва ўзаемаадносінах паміж Вялікім князем і гараджанамі (местачкоўцамі) знаходзіць сваё адлюстраванне. Ва ўзгаданым вышэй Прывілеі на магдэбургскае права г. Гродна вялікі князь Аляксандр патрабуе ад гарадзенцаў забеспячэння яго паходнямі падчас, калі яго вялікасць будзеісці на ловы, свяціць, калі ён будзе вяртацца, вартаваць яго асобу ўсюды ўначы. Вядома, мала хто з падданых нават без гэткага патрабавання сам, добраахвотна не згадзіўся б свяціць паходняй Вялікаму князю. І палічыў бы гэта за гонар! А што казаць пра вартаванне асобы князя? Калі ўспрымаць тэкст Прывілея літаральна, то можа скласціся ўражанне, быццам бы князь Аляксандр быў зусім без усялякай дзяржаўнай аховы і ніхто ў ВКЛ не жадаў удзельнічаць з ім у ловах. Справа, аднак, тут у іншым. Змешчаным у Прывілеі выказваннем князь Аляксандр як бы падкрэсліваў давер да гарадзенцаў, асаблівую сувязь з імі. А гэта не магло не выклікаць рэакцыі ў адказ.

**— Якім жа чынам можна выкарыстаць вопыт самакіравання ў ВКЛ у сучасных умовах?**

— На маю думку, яго можна ў поўнай меры выкарыстаць пры рэфарміраванні мясцовых органаў улады і фарміраванні сённяшняй сістэмы самакіравання. Не цяжка заўважыць, як розняцца паміж сабой асобныя рэгіёны Беларусі, гарады і іншыя населеныя пункты і ў эканамічных, і ў сацыяльных, і ў дэмаграфічных, і ў канфесійных адносінах, ды і ў мностве іншых стасункаў. А сістэма органаў мясцовай улады і кіравання, іх паўнамоцтвы, фінансавая і эканамічная базы, кола абавязкаў абсалютна аднолькавыя. Ці можна гэта лічыць лагічным, нармальным? Думаю, што не.

Трэба, каб заканадаўства аб мясцовых органах самакіравання пры азначэнні іх паўнамоцтваў і абавязкаў замацоўвала мінімум абавязковых універсальных функцый. Напрыклад, у сферы адукацыі, аховы здароўя і навакольнага асяроддзя, камунальнай гаспадаркі, культуры і г. д. А далей кожны орган самакіравання, зыходзячы з уласных фінансавых і эканамічных сродкаў, рэальна ўзважваючы і ацэньваючы мясцовыя ўмовы, у сваім Статуце браў бы на сябе выкананне тых альбо іншых функцый, вырашаў тыя ці іншыя задачы. Менавіта такі парадак ва ўзаемаадносінах цэнтральнай улады і органаў мясцовага самакіравання ўсталяваўся на радзіме магдэбургскага права. І гэта ў Германіі, са схільнасцю немцаў да жорсткай цэнтралізацыі ўсяго жыцця і дзяржаўнай улады. Як бачым, гістарычная традыцыя, калі яе ведаюць і ўмела выкарыстоўваюць, не з'яўляецца перашкодай для ўсіх астатніх уласцівасцей народа і яго дзяржаўнай структуры.

А ўспомнім, якія эмоцыі кіпелі вакол стварэння прэзідэнцкай «вертыкалі». Колькі разоў разглядалася гэтае пытанне і звязаныя з ім праблемы ў Вярхоўным Савеце, Канстытуцыйным судзе. Не вырашана яно да канца і сёння. А вось нашы продкі яшчэ ва ўмовах феадальнай дзяржаўнасці так пабудавалі вялікакняскую, пэўна не менш жорсткую вертыкаль, што захавалі пры гэтым і самакіраванне ва ўсім аб'ёме, і задаволілі агульнадзяржаўны інтарэс.

Кіраўніцтва горадам па магдэбургскаму праву ажыццяўляў магістрат. Ён складаўся з рады і лавы. Узначальваў магістрат войт. З ліку радцаў выбіраўся бурмістр. Як фарміраваўся магістрат? Войт прадстаўляў цэнтральную дзяржаўную ўладу і прызначаўся на пасаду Вялікім князем. Рада была выбарным органам і выконвала функцыі прадстаўнічай улады (зараз гэта гарадскі Савет). Органам (кіраўніком) выканаўчай улады гараджан, г. зн. выканаўчым органам самога кіравання быў бурмістр. Бурмістра на пасаду прызначаў войт, але з ліку некалькіх кандыдатур (радцаў), што выбіраліся радай. Такім чынам, развіваліся і дэмакратычныя працэдуры пры фарміраванні мясцовай выканаўчай улады, і захоўваўся іерархічны прынцып пабудовы дзяржаўнай улады. Чаму б нам не пераняць гэты вопыт?

Шмат карыснага можна знайсці ў магдэбургскім праве, гэтай па-сапраўднаму невычэрпнай скарбонцы нашай славутай мінуўшчыны, калі шанаваць сваіх продкаў і іх справы.

**Гутарку вёў Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 27 (46)


## ДЗЕ САМЫЯ ТАННЫЯ ПРАДУКТЫ Ў КРАІНЕ?

***Узровень мінімальных рознічных цэн на асноўныя харчовыя тавары ў дзяржгандлі ў абласных цэнтрах і Мінску на 19.07.96 г.***

| Найменне | Брэст | Віцебск | Гомель | Гродна | Мінск | Магілёў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Хлеб масавых гатункаў (0,9 кг) | 2500 | 2500 | 2900 | 2800 | 2600 | 2800 |
| Батон першага гатунку (0,5 кг) | 3000 | 2800 | - | - | 2800 | 3300 |
| Макаронныя вырабы (кг) | 12.100 | 12.500 | 10.900 | 12.200 | 12.100 | 12.700 |
| Крупы ячныя (кг) | 5000 | 5200 | 5200 | 6000 | 4900 | 5800 |
| Мука вышэйшага гатунку (кг) | 6800 | 7000 | 7900 | 7300 | 7300 | 7200 |
| Ялавічына на костцы (кг) | - | 26.200 | 26.400 | 25.100 | 29.000 | 28.300 |
| Свініна (кг) | 30.400 | - | 34.300 | 31.600 | 34.300 | - |
| Каўбаса вараная першага гатунку (кг) | 28.100 | 33.100 | 36.500 | 30.100 | 32.200 | 31.100 |
| Пельмені (0,5 кг) | 9700 | 11.500 | 15.600 | 11.800 | 13.800 | 12.100 |
| Мяса птушкі (кг) | 26.600 | 35.400 | 25.600 | 34.800 | 32.500 | 35.400 |
| Малако 3,2% (без посуду, 0,5 л) | - | 1900 | - | 1700 | 2400 | 2100 |
| Масла (кг) | 40.300 | 38.500 | 44.900 | 37.400 | 43.000 | 38.300 |
| Смятана 25% (кг) | 17.200 | 21.200 | - | 18.100 | 22.600 | 22.900 |
| Кефір 3,2% (без посуду, 0,5 л) | - | 2100 | 2500 | 1800 | 2500 | 2200 |
| Тварог 9% (кг) | 15.400 | 17.500 | 14.200 | 14.400 | 21.600 | - |
| Сыр цвёрды (кг) | 48.000 | 48.600 | 47.100 | 52.000 | 53.600 | 48.600 |
| Рыба мarожаная (кг) | 17.600 | 19.000 | 17.400 | 23.400 | 19.200 | 21.000 |
| Яйкі (дзес.) | 11.800 | 10.600 | 10.000 | 10.500 | 12.100 | 11.600 |
| Алей (кг) | 20.000 | 18.000 | 25.000 | 17.000 | 21.800 | 20.000 |
| Цукар (кг) | 8800 | 8500 | 8100 | 9500 | 9100 | 8700 |
| Соль (кг) | 1600 | 1700 | 1800 | 1700 | 1800 | 1700 |
| Бульба (кг) | 3000 | 3500 | 7200 | 2500 | 3500 | 5000 |
| Морква (кг) | 4000 | - | 3000 | 3000 | 5300 | 10.000 |

**Падрыхтаваў Сяргей РАСОЛЬКА.**

## НАВІНЫ ГАНДЛЮ

Міністэрству эканомікі прадстаўлена **сума выдаткаванняў на крэдытныя рэсурсы на 1997 год** для паставак тавараў для дзяржаўных патрэб у прадпрыемствы гандлю **ў памеры 354,7 млрд. рублёў.**

У рамках выканання Рэспубліканскай праграмы работ па ўкараненню ў Рэспубліцы Беларусь аўтаматызаваных сістэм безнаяўных разлікаў і штрыхавой ідэнтыфікацыі спажывецкіх тавараў **мінскім заводам «Эталон» запушчаны ў серыйную вытворчасць вагавыя тэрміналы** трох тыпаў, якімі могуць камплектавацца аўтаматызаваныя працоўныя месцы касіраў і прадаўцоў.

**На права аптовага гандлю** алкагольнымі напоямі ў краіне выдадзена каля 200 ліцэнзій.

У выніку зніжэння інфляцыйных працэсаў **індэкс цэн на спажывецкія тавары** за мінулае паўгоддзе **склаў 165 працэнтаў** супраць чакаемых 177 працэнтаў, што ў пэўнай ступені садзейнічала стабілізацыі на спажывецкім рынку краіны.

Згодна з данымі Міністэрства хлебапрадуктаў, **вытворчасць** (і адпаведна спажыванне) **хлеба і хлебабулачных вырабаў** за паўгоддзе ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў цэлым па краіне **скарацілася да 97,3 працэнта,** у тым ліку **хлеба — да 95,8 працэнта** (па Мінску — да 93,4 працэнтаў).

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



## РОЗНАЕ

❑ польская мова: пераклады.
*г. Мінск, тэл.: 268-55-31, 243-98-10. Наташа.*

❑ электрычны ацяпляльна-воданагрэўны аўтаматычны комплекс для ацяплення і гарачага водазабеспячэння жылых памяшканняў. Магчымы варыянты выканання (душ «Шарко» і г. д.).
Выканаем і ўстановім у любым пункце Беларусі.
*Тэл. у Мінску 290-91-84.*

❑ мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Крыме (Джанкой) на Мінск.
*Тэл. у Мінску 270-71-87.*

❑ мяняю 2-пакаёвую кватэру (лоджыя, тэлефон) у Магілёве на кватэру ў Лідзе.
*Тэл. (8-0222) 25-53-59.*

❑ 3 жніўня ў 14 гадзін адбудзецца сустрэча выпускнікоў 1963-1966 гг. Карэліцкай СШ. Збор каля новай школы.

**Аргкамітэт.**

❑ падкажыце і вышліце рэцэпт лекаў ад грыбковых захворванняў ступняў ног. **Мой адрас: Стаўбцоўскі раён, п/а Мікалаеўшчына, в. Белькаўшчына Даніленка Н. В..**

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з днём нараджэння ўнука* ***ГУРЫНОВІЧА Дзіму.*** *Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і жыцці.*

**Дзядуля і бабуля.**

Дарагая жонка, матуля і бабуля **АСТАПЕНКА Марыя Гаўрылаўна.** Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, радасці, шчасця і доўгіх-доўгіх гадоў жыцця.

**Муж, дачка, зяць і ўнучка Вераніка.**

*Віншую з 70-годдзем* ***ПРАХАРОВІЧА Мікалая Аляксандравіча****. Жадаю шчасця, здароўя і ўсяго самага найлепшага.*

**Брат Міша.**

Сардэчна віншуем з 50-годдзем **Валянціну Іванаўну ГІЗОЎСКУЮ.** Жадаем шчасця і дабра, доўгіх-доўгіх гадоў жыцця, поспехаў у працы.

*В. Хорціца.* **Муж, сыны, нявестка, унучка.**

Калегі па рабоце мінскага інстытута «Беларгстанкінпром» віншуюць Васілеўскага Васіля Уладзіміравіча з саракагоддзем. Жадаюць поспехаў у рабоце, здароўя і шчасця ў жыцці.

*«Неси легко по жизни крест вселенский*
*Ещё на сотни-сотни лет,*
*Хотя в пути и кружит танец «венский»*
*Нас на стезях успехов и побед».*

## ПРАДАЕЦЦА

● »Фиат-Ритмо» 81 г. в. 5 дзвярэй, 1800 долараў. *г. Жодзіна, тэл. (8-01775) 3-60-68.*

● драўляны дом 6х7 пад дачу, з садам, нядорага ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці.
*Тэл. (8-02157) 2-53-70. Лена.*

● 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні.
*г. Смаргонь, тэл. 5-24-52.*

● прычэп да УАЗ 3152, 400 долараў; тэнт, аўташыны і іншыя запчасткі.
*Тэл. у Воранава: 2-24-94; 2-19-94.*

● дом 6х10, хлеў, лазня, участак 20 сотак, 300 м ад станцыі Дашкоўка Магілёўскага раёна, 3000 долараў.
*Тэл. (8-22) 42-67-56*

● новы вялікі дом у Івянцы без унутраных работ, участак 8 сотак, нядорага.
*Тэл. (8-293) 34-4-52.*

● дом драўляны 67 кв. м у цэнтры г. Рагачова з усімі выгодамі і надворнымі пабудовамі, сад 8,5 сотак.
Звяртацца: *г. Рагачоў Гомельскай вобл., вул. Тэльмана, 52, тэл. (8-02339) 2-29-12.*

● драўляны дом у г. Вілейка, участак 15 сотак, побач прыпынак, 500 м ад вадасховішча.
*Тэл. у Вілейцы 5-65-16.*

● драўляны дом 6х12 альбо мяняю на трактар МТЗ, можна б/у.
*Тэл. у Салігорску 2-29-32.*

● палатка гандлёвая 2х2,5 м.
*Тэл. у Мінску 262-42-61.*

● элетрамаслабойка 3÷6 л смятаны, гатоўнасць масла 15 хвілін, новая, 700 тыс. руб.
*Тэл. у Мінску 248-39-35.*

● дом-асабняк з надворнымі пабудовамі, склепам, лазняй, садам у вёсцы. 20 км ад Вілейкі.
*Тэл. у Вілейцы 7-34-17.*

● электраліт шчолачны
*Тэл. у Слуцку (8-01795) 2-27-10 з 9 да 17.*

● ВАЗ-2105 г. в. 85, авечкі.
*Звяртацца: 211844, Віцебская вобл., Пастаўскі раён, в. Чарты, Нязамаву.*

● дом драўляны 6х10 з падвалам, участак 50 сотак у в. Неманіца Барысаўскага раёна, 5 км ад горада, побач чыгунка.
*Тэл. (8-277) 2-98-20.*

● Прадаю жаробку 1 год 2 месяцы у в. Каралёва Уздзенскага раёна.
*Тэл. (8-218) 39-1-51, Харлап.*

● новы стартар да МАЗа; каляска інвалідная мадэль 407, новая.
*Тэл. у Клічаве 2-29-35.*

● дом у г. Смаргоні.
*Тэл. (8-292) 5-24-75 пасля 19.*

● Кватэра 2-пакаёвая на ст. Пруды д. 7, Маладзечанскага раёна.
*Тэл. у Маладзечна 29-2-84.*

● зруб 6,5х6,5 м у камплекце ўсе будматэрыялы і аконныя блокі.
*Тэл. у Вілейцы 6-35-05, 6-41-77.*

● драўляны дом у цэнтры г. Ваўкавыска, маецца сад, агарод, склеп, 3400 долараў.
*Тэл. у Ваўкавыску 96-4-14.*

● каляска інвалідная, новая, запасныя часткі.
*Звяртацца: Мінск-100, вул. Багдановіча 74-12, Інванчанка Л. Ф..*

● кватэра 2-пакаёвая 32 кв. м у г. Б-Кашалёве Гомельскай вобласці, альбо мяняю на кватэру ў г. Светлагорску.
*Тэл. (8-02342) 2-36-10 пасля 18 гадзін.*

● масквіч ІЖ-2715 «каблучок» 84 г. в., танна.
*Тэл. у Ваўкавыску 96-4-14.*



| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет: 8, 11, 15 дней авиа «Боинг» | от 525 $. 4-5-звездный отель | Техно-стар | тел./факс 268-47-14 тел. 268-56-69. |



**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 68-28-71.**

Згубленыя дакументы прадпрымальніка без утварэння юрыдычнай асобы (сшытак уліку, адрыўныя талоны колькасцю 350 шт., накладныя), выдадзеныя на імя **НОСІК Алы Яфімаўны** Смаргонскай ДАІ Гродзенскай вобласці, лічыць **НЕСАПРАЎДНЫМІ.**

## Мікалай МАЧАРНЮК:

# «ГАЗАВЫМ АРТЭРЫЯМ — ПРАЦАВАЦЬ

**Цывілізацыя прывучыла нас да многага, асабліва, што датычыцца быту. Сёння нават цяжка ўявіць сабе, як бы мы абыходзіліся, скажам, без той жа газавай пліты? Але ж на гэтым функцыя «блакітнага паліва» не канчаецца: на газавае забеспячэнне пераведзены амаль усе электрастанцыі, яго спажывае большасць прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі. Даходзяць газавыя артэрыі і да вёсак. І ўсё ж, выкарыстоўваючы энергію гэтага самага «блакітнага паліва», наўрад ці задумваемся над тым, якой цаной забяспечваецца дабрабыт, у якіх няпростых умовах цэлая армія эксплуатацыйнікаў дабіваецца зладжанай работы такой далёка няпростай сістэмы, якой з'яўляецца дзяржаўнае прадпрыемства «Белтрансгаз». Шматтысячны калектыў газавікоў жыве і працуе ў вельмі напружаным рэжыме: ні табе агульных свят, ні выхадных. Тым жа, хто забяспечвае нармальную работу газаправодаў непасрэдна ў полі, яшчэ цяжэй: у любое надвор'е яны — на трасе, клапатліва сочаць за тым, каб не дапусціць збою ў рабоце газавай гаспадаркі.**

**Як і ўсюды цяпер, у сістэме «Белтрансгаза» нямала праблем і цяжкасцей. Пра гэта і многае іншае наша гутарка з генеральным дырэктарам «Белтрансгаза» Мікалаем МАЧАРНЮКОМ.**



— РАБОТА ГАЗАВІКОЎ у нечым нагадвае пярэдні край абароны, — гаворыць Мікалай Пятровіч. — Тут ніякіх збояў, пралікаў нельга дапускаць, не маем права. І калі недзе ў тыле яшчэ можна перачакаць, адсядзецца да лепшых часоў, то на пярэднім краі ўсё мяняецца імгненна. І ўвогуле, параўноўваючы народную гаспадарку з чалавечым арганізмам, прыходзіш да высновы, што газавыя артэрыі зрадні крываносным сасудам, па якіх цячэ, струменіць жывая кроў, якая сілкуе гэты самы арганізм. І газ для народнагаспадарчага комплексу — тая ж кроў. Варта перакрыць газавую засаўку — і адразу спыняцца сотні прамысловых прадпрыемстваў, электрастанцый, кацельняў, пачнецца такое, што і ў самым страшэнным сне не ўбачыш. Вось таму ўся служба «Белтрансгаза» і нацэлена на тое, каб не дапусціць збою ў рабоце сістэмы. Словам, газавым артэрыям — працаваць зладжана!

**— А што ўяўляе сабой сістэма «Белтрансгазу»? Якая яе структура, напрамкі дзейнасці?**

— Зазначу, што «Белтрансгаз», як самастойная сістэма, існуе ўсяго некалькі гадоў. Раней, да распаду Саюза, гэта было падраздзяленне адзінага вялізнага структурнага аб'яднання, у функцыі якога ўваходзіла будаўніцтва і эксплуатацыя газавай гаспадаркі. Цяпер мы самі ажыццяўляем транспарціроўку і падрыхтоўку газу, забяспечваем ім увесь народнагаспадарчы комплекс рэспублікі. У сістэме «Белтрансгаза» восем упраўленняў магістральных газаправодаў: Аршанскае, Крупскае, Мінскае, Нясвіжскае, Слонімскае, Кобрынскае, Гомельскае і Асіповіцкае. Яны адказваюць за эксплуатацыю больш як 5,5 тысячы кіламетраў газаправодаў, 177 газарэдукцыйных станцый. Для прыкладу, Мінскае ўпраўленне магістральных газаправодаў, што ў пасёлку Міханавічы, абслугоўвае каля тысячы кіламетраў газаправодаў і 26 газарэдукцыйных станцый, міжнародны замерны пункт паміж Беларуссю і Літвой, кампрэсарную станцыю ў Міханавічах і яшчэ шэраг іншых аб'ектаў. На газарэдукцыйных станцыях прыродны газ, які паступае з магістральных газаправодаў, поўнасцю падрыхтоўваецца да спажывання: зніжаецца ціск, праводзіцца ачыстка, замер і адарызацыя — спецыяльная дабаўка пахучых рэчываў для выяўлення яго магчымай уцечкі. У сістэму «Белтрансгаза», апрача сеткі магістральных і адводных газаправодаў, газарэдукцыйных станцый, уваходзяць таксама службы электрахімічнай аховы, сувязі, тэлемеханікі і кіравання. Напрыклад, служба сувязі забяспечвае не толькі ўстойлівую сувязь з усімі газарэдукцыйнымі станцыямі і іншымі аб'ектамі сістэмы, што немалаважна ва ўмовах павышанай гатоўнасці, але і з брыгадамі непасрэдна на трасе, якія займаюцца рамонтам і прафілактыкай, у выпадку нейкіх аварыйных сітуацый, а таксама падтрымлівае надзейную сувязь з газавікамі Расіі і Украіны. Магутнасць усіх кампрэсарных станцый перавышае 700 тысяч кілават, што можна параўнаць з даволі буйной электрастанцыяй.

У задачы «Белтрансгаза» ўваходзіць не толькі падача газу па магістральных трубаправодах і размеркавальнай сетцы непасрэдна спажыўцам, але і транзіт яго з Расіі ў іншыя краіны, у прыватнасці на Украіну, Польшчу, Літву, а праз яе — і ў Калінінградскую вобласць. Немалаважнае значэнне мае і назапашванне прыроднага газу ў летні перыяд у спецыяльных падземных газасховішчах для яго выкарыстання ў зімовы час, калі патрэбнасць у паліве значна ўзрастае. Буйное падземнае газасховішча дзейнічае ў раёне Асіповіч, яшчэ адно ўзводзіцца каля Брэста. Праводзіцца інтэнсіўная разведка зямных нетраў для стварэння падземных сховішчаў у раёнах Мазыра і Наваполацка і іншых месцах.

**— Нядаўна на газазаправачнай станцыі давялося ўбачыць, як запраўляюцца газам грузавыя машыны. Наколькі гэта выгадная справа?**

— Адна з важнейшых задач, што стаяць перад чалавецтвам, ахова акаляючага прыроднага асяроддзя. А калі ўлічыць, што ў свеце дзесяткі мільёнаў машын штодзённа атручваюць атмасферу выхлапнымі газамі, то пераход на больш экалагічна чыстае паліва, якім з'яўляецца сціснуты прыродны газ, мае выключнае значэнне. І, па ацэнцы спецыялістаў, газ больш эканамічнае паліва, чым традыцыйны бензін. Дарэчы, цяпер у рэспубліцы ўжо дзейнічае 21 станцыя, дзе аўтамабілі, у тым ліку і легкавыя, запраўляюцца прыродным сціснутым газам. Адной такой запраўкі хапае недзе на 200—250 кіламетраў. А ўвогуле аўтаўладальнікі хутка ацанілі ўсе перспектывы пераводу тэхнікі з бензіну на газ. І як ні цяжка сёння з фінансамі, матэрыяламі, імкнёмся усё ж нарошчваць магутнасці нашай газатранспартнай сістэмы, працягваць будаўніцтва адводаў да гарадоў і пасёлкаў. У прыватнасці закончаны работы па падачы прыроднага газу ў Крычаў.

**— Апошнім часам нямала гаворыцца пра будаўніцтва супер-газаправода Ямал—Еўропа. Паколькі вакол гэтай праблемы нямала спрэчак, а нярэдка і супрацьлеглых думак, ці нельга больш падрабязна расказаць пра новую трасу газаправода? І якая тут выгада для рэспублікі?**

— Ужо заключана пагадненне аб будаўніцтве новай газатранспартнай магістралі Ямал—Еўропа, што праляжа па тэрыторыі Беларусі. Будоўля і сапраўды ўражвае, бо кошт работ ацэньваецца недзе ў 1,5 мільярда долараў. Гэта будзе якасна новы ўзровень у вырашэнні праблемы транспарціроўкі газу: дыяметр газаправода складзе 1400 міліметраў. Ды і ціск газу ўзрасце з 55 атмасфер да 84.

У выніку ў год тут будзе прапампоўвацца каля 65 мільярдаў кубаметраў «блакітнага паліва». А цяпер наконт выгод для рэспублікі. Пры завяршэнні будаўніцтва газаправода мы зможам атрымліваць дадаткова штогод 17 мільярдаў кубаметраў газу ў дадатак да тых 12,5 мільярда кубоў, што маем зараз. На будаўніцтве магістралі (узвядзенне газакампрэсарных станцый, іншых аб'ектаў) будзе дадаткова занята каля 1000 нашых будаўнікоў. Калі ўлічыць, што асноўныя будаўнічыя матэрыялы таксама будуць мясцовымі, то гэта забяспечыць нямала дадатковых рабочых месцаў і ў сістэме будіндустрыі. Не кажучы ўжо пра эксплуатацыю газаправода, дзе будзе дадаткова створаны фронт работ. Ну і, вядома, падаткі, якіх бюджэт атрымае нямала.

**— Цэны на энергарэсурсы, у тым ліку і газ, пастаянна растуць. Расце і запазычанасць народнагаспадарчага комплексу за рэсурсы. Па ўсяму бачна, і гэты самы «нулявы варыянт» пагашэння запазычанасці Расіі па энергарэсурсах, мабыць, ужо лопнуў. Дык што чакае нас у самы бліжэйшы час і на не такую ўжо і далёкую перспектыву?**

— Самая вялікая праблема, у якой апынуўся «Белтрансгаз» і якая балюча адбіваецца на ўсім народнагаспадарчым комплексе, гэта хранічныя неплацяжы. У цэлым недзе спажыўцы за выкарыстаны газ плацяць каля 50 працэнтаў нават ад той яўна заніжанай сумы ў параўнанні з сусветнымі цэнамі за газ. Возьмем для прыкладу Польшчу. Там вытворцы за 1000 кубічных метраў газу плацяць 140 долараў, а насельніцтва адпаведна — 230 долараў. У той час як для нашых прамыслоўцаў 1000 кубічных метраў газу абыходзіцца ў 70 долараў, а для насельніцтва — 34 долары. Пры гэтым аплата значнай часткі кошту газу, што выкарыстоўваецца ў бытавых мэтах, перакладваецца на прадпрыемствы. А прамысловасць і без таго — у даўгавой яме. Адсюль — і хранічныя неплацяжы. Праўда, многія прамысловыя прадпрыемствы ў свой час схітрылі, калі пачулі пра «нулявы варыянт». Маўляў, пад агульны шумок і нашы даўгі спішуць. Аднак мушу зазначыць, што ніякіх пагалоўных спісванняў даўгоў не будзе ні сёння, ні тым больш у будучым. За кожны скарыстаны кубічны метр газу неабходна плаціць, а калі не можаце, трэба разлічвацца ўласнай маёмасцю. Такія жорсткія патрабаванні рынку. І адзінае выйсце — эканомія, пераход на энергазберагаючыя тэхналогіі. Шкада толькі, што многія гаспадарнікі нібы ў летаргічным сне, жывуць уяўленнямі пра тыя часы, калі кошт энергарэсурсаў вымяраўся капейкамі. Цяпер за ўсё трэба плаціць і спаўна. Тое ж самае і ў адносінах да бытавога спажывання газу. І тут ранейшая сістэма ўканец разбэсціла людзей, многія наогул забыліся пра тое, што газ у нас — не дар-



• ПАНАРАМА ТЭХНАЛАГІЧНЫХ ТРУБАПРАВОДАЎ КАМПРЭСАРНАЙ СТАНЦЫІ



• ГРУПА НЯМЕЦКІХ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ ПА ДЫЯГНОСТЫЦЫ

# ДОЎГАЯ ДАРОГА ДА ЗАНЯПАДУ

Пасля леташняга рэферэндуму ў Беларусі рэзка скарацілася колькасць беларускамоўных школ і класаў, змяніліся адносіны да роднай мовы ў многіх сярэдніх спецыяльных установах і ВНУ. Як ідзе гэты працэс, што ў ім аб'ектыўнае, выклікане самім жыццём, а што — суб'ектыўнае? Пра гэта гаварылі ўдзельнікі «круглага стала», праведзенага ў сярэдзіне чэрвеня Таварыствам беларускай мовы, Таварыствам беларускай школы і Мінскім бацькоўскім камітэтам беларускамоўных класаў.

Напісаў словы «аб'ектыўнае», «выклікане самім жыццём» і задумаўся: на падставе чаго працэс скарачэння беларускага ў Беларусі можна лічыць аб'ектыўным? Хіба ў нас навокал усе гавораць па-беларуску, няма рускамоўных газет і школ, рускай мовы не чуваць па радыё і на тэлебачанні? Не падобна. Нават да рэферэндуму, у 1994/1995 навучальным годзе, напрыклад, у Мінску з 226 школ беларускамоўны статус мелі (але гэткімі яшчэ не былі) 136. Як падкрэсліваў колішні намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома і цяперашні міністр культуры А. Сасноўскі, у лепшым выпадку цалкам беларускамоўнымі гэтыя школы маглі стаць толькі ў 2004/2005 навучальным годзе. Увогуле меркавалася, што ў трэцяе тысячагоддзе жыхары сталіцы ўвайшлі б, маючы толькі 20 сапраўды беларускамоўных школ, што складала б менш за 9 працэнтаў ад агульнай колькасці школ у горадзе («Добры вечар», 22 снежня 1994 года). Колькі ж беларускіх школ можа застацца ў сталіцы пры новым парадку?

Мала. Або — вельмі мала.

Мінулым летам цалкам «памерла» беларускамоўная школа № 127 Фрунзенскага раёна — перавод на рускую мову ў ёй ахапіў усе наяўныя беларускія класы з другіх па шостыя. Толькі два беларускія класы засталіся ў 95-й школе Цэнтральнага раёна. Ніводнай беларускамоўнай школы цяпер няма ў Савецкім раёне Мінска. Фактычна вызвалілася ад беларускамоўнага статусу 103-я школа-гімназія Першамайскага раёна — з 8-мі класаў у ёй застаўся толькі адзін, перспектывы якога пакуль туманныя. Такая сітуацыя не толькі ў сталіцы: па стану на 5 верасня 1995 года зусім не засталося беларускамоўных школ у Віцебску, Оршы, Наваполацку і іншых гарадах.

Тэндэнцыя выразная, для беларускамоўнай адукацыі пагражальная.

Аб'ектыўнай прычынай скарачэння колькасці беларускіх школ з'яўляецца наш курс на інтэграцыю з Расіяй, разважаюць некаторыя. Можа, гэта і так. Ды, здаецца, калі захаваюцца ўзятыя тэмпы, Расіі неўзабаве не будзе з кім аб'ядноўвацца: «дэбеларусізаваная» дарэшты Беларусь перастане ўспрымацца нашай усходняй суседкай — гэтым разам, папраўдзе, аб'ектыўна — як самастойная краіна, з інтарэсамі якой трэба лічыцца. Між тым, інтэграцыя не павінна прыводзіць да растварэння беларускага ў рускім, да самаадрачэння.

Апошнім часам практычна ўсе дзяржавы Паўночнай Еўропы прыкладаюць асаблівыя намаганні для развіцця сваіх нацыянальных культур і захавання нацыянальнай самасвядомасці грамадзян. Так, у Швецыі новапрызначаны ўрад у першай сваёй дэкларацыі закрануў праблемы культуры. Прэм'ер-міністр І. Карлсан падкрэсліў, што па меры таго, як Швецыя атрымлівае ўсё больш імпульсаў ад іншых нацый, становіцца яшчэ больш важным абараняць уласную культурную спадчыну і шведскую мову. Імкненне захаваць нацыянальна-культурную ідэнтычнасць у Швецыі, Фінляндыі, Даніі прыводзіць нават да пэўных абмежаванняў у дзейнасці дзяржаўных і прыватных сродкаў масавай інфармацыі. Так, у 1994 і наступных гадах у паўночных еўрапейскіх краінах былі засведчаны шматлікія спробы дзяржаўных органаў арыентаваць супрацоўнікаў газет, часопісаў, тэле- і радыёканалаў на каштоўнасці «грамадскай службы», на ўмацаванне нацыянальнай годнасці шведаў, фінаў, датчанаў.

Калі на поўначы Еўропы назіраецца выразнае імкненне дырэктыўна ўздзейнічаць на культурна-нацыянальныя працэсы ў грамадстве, то ў нас, наадварот, у наяўнасці татальная дэмакратыя — у асобна ўзятай моўнай сферы аднаго асобна ўзятага Міністэрства адукацыі і навукі. У Беларусі мае магчымасць непасрэдна ўплываць на графік руху цягнікоў ці на тэхналогію вырабу каўбас вельмі вузкае кола людзей. Затое кожны чалавек у Беларусі незалежна ад свайго адукацыйнага ўзроўню, нацыянальнасці і любых іншых характарыстык можа непасрэдна ўздзейнічаць на размеркаванне адукацыйных устаноў паводле моўнай прыкметы. У значнай ступені цяпер у школы прыходзяць дзеці тых бацькоў, якія самі не толькі не вучыліся ў беларускіх школах, але і ўвогуле былі «вызвалены» ад вывучэння беларускай мовы. (Напрыклад, у Мінску ў 1969 годзе беларускую мову не вывучалі 90 працэнтаў школьнікаў). Год таму на рэферэндуме яны мелі магчымасць назіраць, як высокапастаўленыя дзяржаўныя чыноўнікі пагарджаюць беларускай мовай, агітуюць супраць яе — ці ж можна было сумнявацца, якую мову гэтыя бацькі выберуць? Як у такіх умовах Міністэрства адукацыі і навукі збіраецца развіваць беларускамоўную адукацыю, застаецца загадкай.

Зрэшты, застаецца загадкай і тое, ці збіраецца міністэрства рабіць гэта ўвогуле. Бо ж устаноўленае правіла, згодна з якім кожны бацька мае безумоўнае права выбіраць мову навучання для свайго дзіцяці, практычна пазбаўляе беларускую мову шанцаў на выжыванне ў сістэме адукацыі. Амаль нідзе ў свеце такая норма не дзейнічае, але яна была ў Савецкім Саюзе. Многія мовазнаўцы лічаць, што неўмяшанне дзяржаўных органаў у моўную палітыку з'яўляецца па сутнасці «прыкрыццём палітыкі, накіраванай на стварэнне пераваг для мажарытарнай (больш прэстыжнай. — **С. З.**) мовы», а нічым не абмежаваны выбар мовы навучання ў школе ацэньваецца вучонымі як «сродак замацавання моўнага і культурнага нераўнапраўя і выцяснення мінарытарнай (менш прэстыжнай. — **С. З.**) мовы» («Вопросы языкознания», 1989, № 5, с. 107).

...Праслухаўшы ўсе выступленні на пасяджэнні «круглага стала», прафесар Мікола Савіцкі эмацыянальна выгукнуў: «А магло ж усё быць інакш!» Сапраўды, магло. Пры іншым развіцці падзей беларуская мова магла ўтульна сябе пачуваць у школах і ўстановах, а для яе абароны не трэба было б праводзіць «круглыя сталы» пад назвай «Факты знішчэння беларускамоўнай адукацыі ў Беларусі». Так магло быць — але так не стала. Дзяржава ў асобе яе выканаўчай улады, падобна, абрала курс на заняпад беларускай мовы, і, прызнаем, у гэтым выбары ёсць свая логіка.

Не варта, аднак, думаць, што гэты працэс будзе праходзіць хутка і беспраблемна. На пасяджэнні прагучала інфармацыя аб тым, што сёй-той з бацькоў, зняверыўшыся ў магчымасці адстаяць свае правы на беларускамоўную адукацыю, гатовы пачаць галадаць і чакае толькі санкцыі на гэта з боку адпаведных грамадскіх арганізацый. Калі тое і адбудзецца, то, можна меркаваць, гэта будуць не апошнія акты супраціўлення сённяшняй моўнай палітыцы ў Беларусі.

**Сяргей ЗАПРУДСКІ,**
**эксперт «Звязды» па моўных пытаннях.**

## Я ЗАЎСЁДЫ БАЧЫЎ, ШТО БЕЛАРУСКАЯ МОВА ПРЫЦІСКАЕЦЦА

Пазнаёміўся з рубрыкай «Лісты ў газету — люстэрка настрояў у грамадстве» (5 чэрвеня), і самому захацелася выказаць даўно набалелае.

Я — пенсіянер. У мінулым — выкладчык рускай мовы і літаратуры, які любіў бязмежна свой прадмет. Я заўсёды бачыў, што беларуская мова «прыціскаецца». Але ж каму было паскардзіцца, калі гэта была «ўстаноўка ЦК КПСС». І вось настаў час, калі Рэспубліка Беларусь стала суверэннай дзяржавай. Здавалася б — усё нацыянальнае павінна стаць на сваё законнае месца: і мова, і дзяржаўныя сімвалы, і школа.

Але ж дзе там! Чыноўнікі як пагарджалі нашай нацыянальнай годнасцю, так пагарджаюць і да сёння. У той час, як на гэтай «беднай мове» нашы вучоныя пішуць навуковыя працы, выкладчыкі ВНУ чытаюць студэнтам лекцыі па складанейшых тэмах, а беларускія перакладчыкі данеслі да нацыянальнага чытача творы найвялікшых філосафаў, пісьменнікаў і паэтаў праз беларускую мову. Нам трэба суверэнная дзяржава, і ўсе нацыянальна-беларускія дзяржаўныя атрыбуты: і мова, і культура, і сімвалы. У нас гэта ўсё ёсць — і не горшае, як у іншых (і ў той жа Расіі), толькі трэба ўсё гэта вярнуць да жыцця.

**В. СКАРАХОД.**

*г. Мінск.*

## ГАВОРЫШ ПА-БЕЛАРУСКУ? А ТЫ НЕ ДЗІВАК?

Што здарылася з беларускай мовай пасля рэферэндуму, які адбыўся 14 мая 1995 года? З яе пачалі пасміхацца, як у часы брэжнеўскага застою. Гэта замест таго, каб ствараць умовы для развіцця нацыянальнай культуры і беларускай мовы...

Калі ў нас у Беларусі чалавек гаворыць па-беларуску, на яго глядзяць як на дзівака, апазіцыянера існуючаму грамадскаму ладу, уладам. Беларускую мову на практыцы ўжо не лічаць дзяржаўнай, і кепскую паслугу тут аказвае сама ўлада. Вось да чаго дажыў беларус у сваёй роднай краіне.

**Уладзімір МЕЛЬНІК,**
*Мінская вобл., г. Старыя Дарогі.*

## ЁСЦЬ ЛЮДЗІ, ДЛЯ ЯКІХ СВАЁЙ З'ЯЎЛЯЕЦЦА БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Пра моўную і нацыянальную палітыку цяпер ужо амаль не пішуць: тут і так усё ясна — палітыка нацыянальнага нігілізму крочыць шырокім фронтам. Адкінуты Закон аб мовах, школы зноў робяцца, як і раней, рускамоўнымі. Аб радыё і тэлебачанні ўжо і гаварыць не трэба: «великий и могучий» тут поўнаўладны гаспадар. Прычым дыктарамі і вядучымі старанна капіруецца не толькі мова, але тэматыка і стыль перадач з Масквы. Так і хочацца спытаць: «А ці здольныя вы хоць на што-небудзь сваё?..»

Палітыкі і дзяржаўныя чыноўнікі ўсіх рангаў гавораць выключна на рускай мове. З цяжкасцю ўсведамляеш, што існуюць на свеце розныя там інстытуты Гётэ ці парламенты, якія абараняюць мовы сваіх народаў. Лічу, улада не мае права ігнараваць правоў грамадзян атрымліваць адукацыю на роднай мове.

**В. ШАЎРОЎ.**

*г. Гродна.*

## БЕЛАРУСКУЮ МОВУ — ПРЭЧ З БЕЛАРУСІ?

**Паважаная рэдакцыя!**

**З'яўляючыся вашым чытачом ужо шмат гадоў, звяртаюся да вас упершыню. Падставай для гэтага з'явіўся выпадак, які пакінуў сумны след у маёй душы. Аднак не асабістыя душэўныя перажыванні падштурхнулі сесці за пісьмовы стол.**

Складанасці Адраджэння вядомыя кожнаму сапраўднаму беларусу. Вядомыя яны і мне, выкладчыку Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта. Вось ужо два гады як усе дысцыпліны я выкладаю на роднай мове. Сёлета мне давялося адзін з вучэбных курсаў («Эканоміка прыродакарыстання») прачытаць студэнтам другога года навучання ў Недзяржаўнай акадэміі парламентарызму і прадпрымальніцтва (рэктар У. М. Карагін). Вядома, што і ў акадэміі я выкладаў на беларускай мове. Прычым рабіў гэта не таму, што цяжка было перакласці тэксты лекцый, а разумеючы неабходнасць дадзенай справы. Тым больш, што размова ідзе пра акадэмію, ды яшчэ парламентарызму!

Аднак ужо пасля першых двух лекцый дэкан факультэта эканомікі і кіравання «прапанаваў» перайсці на рускую мову. Я адказаў, што рабіць гэтага не збіраюся і што яшчэ не позна знайсці рускамоўнага выкладчыка. Цікавым уяўляецца аргумент дэкана: «незнание белорусского языка некоторыми студентами и нарушение прав человека». Між тым, на самай першай лекцыі я ўдакладніў у студэнтаў, ці вывучалі яны беларускую мову, ці вучацца тут грамадзяне іншых краін? Аказалася, што беларускую мову яны вывучалі нават у гэтай акадэміі (пра школу я ўжо не кажу) і грамадзян замежных краін тут няма.

Але далей усё супакоілася, я працягваў працаваць, як і працаваў. Дарэчы, на заняткі да мяне прыходзіла студэнтаў не менш, чым да астатніх выкладчыкаў. Аднак зусім нядаўна (28 мая) у дэканаце мне давялося сустрэцца выпадкова з прарэктарам акадэміі А. А. Грэбневым. Пачуўшы з маіх вуснаў беларускую мову, ён пацікавіўся, ці выкладаю я на ёй. Я даў станоўчы адказ. У катэгарычнай форме мне было прапанавана перайсці на рускую мову выкладання. Мае аргументы, што тут няма замежных студэнтаў, што ў нас дзве раўнапраўныя мовы (калі ўжо нагадваць вынікі рэферэндуму), што ставіць так пытанне ў вышэйшай навучальнай установе нельга, да ўвагі прыняты не былі. На гэтым і разышліся.

Аднак пытанні засталіся. Перш за ўсё мяне хвалюе такое стаўленне да Адраджэння кіраўнікоў гэтай навучальнай установы. Вядома, што сітуацыя з беларускамоўным выкладаннем выглядае не бліскуча і ў дзяржаўных ВНУ. Але так пагардліва ставіцца да мовы народа, на зямлі якога жывеш, недаравальна.

У сувязі з гэтым узнікае яшчэ адно пытанне — а як жа атэстацыя вось такіх ВНУ? Дарэчы, тут яна была ўжо праведзена (пра вынікі, на жаль, не ведаю). Увогуле даводзіцца назіраць, што апарат кіравання камерцыйных ВНУ укамплектаваны часта людзьмі выпадковымі, далёкімі ад адукацыі (гэта мае суб'ектыўнае назіранне). Ёсць, безумоўна, і сярод камерцыйных ВНУ такія, дзе праблему не проста разумеюць, а і робяць шмат карыснага на ніве Адраджэння (успамінаю інтэрв'ю з Т. Галко на старонках вашай газеты). Думаю, патрабаванні з боку Міністэрства адукацыі і навукі ў гэтай частцы павінны быць больш жорсткімі. Карысным было б і меркаванне самога міністра наконт гэтага, выкладчыкаў іншых навучальных устаноў.

Я зусім «не трымаюся» за гэту акадэмію (кожны год паступаюць прапановы прачытаць той ці іншы курс у недзяржаўных ВНУ). Аднак ёсць пытанні, на якія трэба даваць адказы, якімі б непрыемнымі яны ні былі. Ёсць выпадкі, міма якіх прайсці нельга. Ёсць людзі, якіх трэба называць так, як яны таго заслугоўваюць.

**Вячаслаў САСНОЎСКІ, выкладчык.**

*г. Мінск.*

***АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ***

# БЕЛАРУСАЧКА

ГЭТАЯ ПЕСНЯ прыйшла да нас з-за мяжы. Яе ўжо спявалі ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі. У беларускай эміграцыі сваё стаўленне да «Беларусачкі»: яна заўсёды выклікала шчымлівыя ўспаміны, нагадвала пра бясконцыя шляхі-дарогі ў далечыні ад запаветнага краю, пра багатыя пачуцці, але вельмі кароткія сустрэчы. На розных імпрэзах гэты твор спяваў Багдан Андрусішын, які выступае пад ласкавым імем, надзеленым з маленства, — Данчык. Першую грампласцінку, якую запісаў у 1977 годзе, ён так і назваў — «Беларусачка».

У 1976 годзе, падчас гастроляў у ЗША ансамбль «Песняры» сустрэўся з Данчыкам. Ён пазнаёміў беларускіх артыстаў са сваім рэпертуарам. У яго выкананні яны пачулі песню, ...якая нарадзілася на беларускіх прасторах і была там амаль невядомая.

...Яе аўтары — папулярны паэт-песеннік Алесь Ставер і кампазітар Юрый Семяняка. Алесь Ставер уваходзіў у групу пісьменнікаў, якая прапагандавала беларускую літаратуру. Яму часта даводзілася выступаць перад грамадскасцю. Шмат ездзіў па Беларусі, Саюзу, сустракаўся з беларусамі, якія знаходзіліся далёка ад роднага краю.

Мабыць, нішто так глыбока не кранае нашых землякоў у далечыні ад радзімы, як матчына слова, песня. У час гутаркі на беларускай мове ўзнаўлялася ў іх душах злучнасць з роднай старонкай, выяўлялася духоўная паяднанасць з ёю.

Паэт адчуваў гэта. Мо таму і нарадзіўся верш, а потым заручоны з мілагучнай музыкай Ігара Лучанка, стаў папулярнай песняй «Жураўлі на Палессе ляцяць». У такіх самых адчуваннях выспявалі паэтычныя строфы пра сустрэчы-ростані.

Зімой 1967 года Алесь Ставер вяртаўся дамоў пасля сустрэчы з чытачамі ў Барысаве. У аўтобусе па дарозе на Мінск складваліся радкі, «Беларусачка, беларусачка, ты хоць зрэдку мяне ўспамінай». Дома засталося толькі запісаць верш. Неўзабаве адбылася сустрэча з Юрыем Семянякам. Паэт перадаў тэкст. Кампазітар меў вольны час і даволі хутка паклаў верш на музыку.

Песня атрымалася. Рамантычная. Звонкая на выяўленне пачуццяў. І крыху самотная ад прадчування ростані. Так заўжды, калі любіш, кахаеш, калі штохвілінна прагнеш еднасці, а мітуслівая будзённасць паглынае пачуцці, думкі, нішчыць сутнасць, растварае асобу. Мелодыя чуллівая, працяжна-пераліўчатая, вяртае да першых спатканняў, узнаўляе пачуццёвую першаснасць.

Песня была напісана. Але бытавала толькі сярод аматараў спеваў. Пачутая эмігрантамі, яна хутка распаўсюдзілася ў іх асяродках на розных кантынентах...

Пасля вяртання з гастроляў па ЗША «Песняры» часта выконвалі «Беларусачку» на канцэртах, у радыё- і тэлепраграмах. Пастунова яна набыла папулярнасць і на Беларусі. З гэтай песняй знакаміты беларускі ансамбль выступаў на Маскоўскай алімпіядзе (1980 г.). Іншамоўная публіка цёпла прыняла «Беларусачку».

**Міхась ШАВЫРКІН.**

*Верш Алеся СТАВЕРА*
*Музыка Юрыя СЕМЯНЯКІ*

*Я гляджу на тваe косы русыя,*
*Не магу наглядзецца ніяк,*
*Беларусачка, беларусачка,*
*Дарагая сяброўка мая,*

*У краях незнаёмых, нязведаных*
*Буду ў радасці я ці ў журбе,*
*Беларусачка, беларусачка,*
*Не забуду ніколі цябе.*

*Я вярнуся к табе, сінявокая,*
*Калі ў кветкі адзенецца гай.*
*Беларусачка, беларусачка,*
*Ты хоць зрэдку мяне ўспамінай.*



# НА ДНЕ ЖЫЦЦЯ, або Хто ён — сучасны бомж?

*Хіба міласэрнасць не павінна праяўляцца з асаблівай сілай менавіта там, дзе вельмі глыбокае падзенне?*

В. ГЮГО.

**МІЛАСЭРНАСЦЬ І СПАГАДА** — менавіта такія пачуцці спрабуеш выклікаць у сваёй душы, калі да цябе працягваецца за міласцінай рука ці на вочы трапляецца брудны, у абносках чалавек, які дрэмле проста на зямлі дзе-небудзь у цэнтры горада. Хтосьці спрабуе хутчэй усунуць небараку якую-небудзь дробную купюру, а іншы проста грэбліва адвернецца.

Пытанне: «Як жа ставіцца да людзей, якія апусціліся на самае дно жыцця?», прызнаюся, непакоіла і мяне. І вось, каб атрымаць на яго адказ, у адзін з выхадных дзён я накіравалася на Мінскую гарадскую дэзінфекцыйную станцыю. Менавіта гэта месца, у пэўным сэнсе слова, «прыцягвае» па суботах самыя (даруйце мой цынізм) «культурныя» і «адукаваныя» масы бамжоў. І гэта менавіта той час, калі ад гэтых заўшыўленых, брудных людзей ніхто ні толькі не шарахаецца, а, наадварот, ім нават прапануюць... «прыняць душ». Прасцей кажучы, усе мінскія бамжы ведаюць, што субота на дэзінфекцыйнай станцыі — іх час! Ім прадастаўляецца добрая магчымаць (зразумела, бясплатна) не толькі памыцца і пазбавіцца ад шматлікіх паразітаў, але, калі пашанцуе, і «прыбарахліцца» новымі абноскамі.

Дык вось, прыбыўшы на месца, я тут жа атрымала красамоўнае пацвярджэнне статыстыкі, згодна з якой 90 працэнтаў бамжоў з'яўляюцца хранічнымі алкаголікамі: у 8 гадзін раніцы практычна ўсе «наведвальнікі» душа былі ці ўжо п'янымі, ці яшчэ п'янымі, што, у прынцыпе, адно і тое ж. Мне ўдалося пагаварыць з некаторымі з іх, і, такім чынам, яны расказалі мне свае жыццёвыя гісторыі.

## СЯРОГА-БРЫГАДЗІР!

Сяргей, бадай, самы свядомы прадстаўнік сваёй браціі. Дзякуючы сваім арганізатарскім здольнасцям (ён кожную суботу прыводзіць з сабой на памывачны пункт усё новых прадстаўнікоў вуліцы і вучыць іх правілам паводзін у гэтай установе), ён атрымаў на дэзінфекцыйнай станцыі мянушку «брыгадзір». Медперсанал у яго прысутнасці спакойны: там, дзе ён, заўсёды парадак. Уражання чалавека, які поўнасцю апусціўся на дно жыцця, Сяргей не робіць. Паводле яго слоў, жыве ён даволі прыстойна — у бамбасховішчы. Кватэру сваю пакінуў другой жонцы, з якой развёўся, а дзяліць жылплошчу з ёй не захацеў, таму што, на яго думку, там дзяліць няма чаго. Раней працаваў шафёрам, а цяпер зарабляе на хлеб работай, якую, час ад часу, падкідваюць яго сябры. У персанала станцыі карыстаецца павагай, дзякуючы чаму мае прывілеяваную магчымасць першым выбіраць сабе адзенне, якое яму спадабаецца. Яно пастаўляецца для гэтых мэт службай міласэрнасці Чырвонага Крыжа. Дарэчы, маё ўяўленне аб тым, што жадаючых пазбавіцца ад непатрэбных рэчаў у нашым горадзе больш, чым дастаткова, аказалася памылковым. Паступленні ад грамадзян, якія здаюць паношанае адзенне ў Чырвоны Крыж, зусім нязначныя. Таму мінскія бамжы апранаюцца пераважна дзякуючы камерсантам, якія падтрымліваюць цесныя кантакты з гарадскім камітэтам Чырвонага Крыжа: прадукцыя трэцяга гатунку, якую яны пастаўляюць у краіну і якая не знаходзіць свайго спажыўца, выклікае радасць і падзяку ў непатрабавальных бамжоў.

## ВОСЬ ТАКОЕ БЫВАЕ КАХАННЕ...

Аляксандр пазбавіўся ўласнай кватэры, ажаніўшыся другі раз. Пакуль ляжаў у бальніцы, жонка паспела развесціся са сваім «маладым» мужам і выпісаць яго з жылплошчы. «Вось такое каханне атрымалася», — горка ўсміхаецца ён. Дзякуй Богу, што застаўся жывы, таму што сябру, паводле яго слоў, пашанцавала менш: распіўшы ў ляску чарговую бутэльку, больш ён не прачнуўся. Аляксандр упэўнены ў тым, што адправіла яго на той свет яго ўласная жонка са сваім новым сужыцелем.

Многа давялося пачуць мне гісторый, быццам бы і розных, але разам з тым і аднолькавых: у бядзе кожнага быў вінаваты хтосьці, толькі не ён сам. Напрыклад, Лена паведаміла, што пасля таго, як яе дом згарэў, жыве з сынам у сяброўкі. А работнікі дэзінфекцыйнай станцыі расказалі другую частку яе гісторыі: жыве ў «пакутніцы» ў Маладзечна маці, якая мае свой дом з гаспадаркай, толькі вось дачка ехаць да маці не спяшаецца, таму што там ёй давядзецца працаваць, а працаваць, як відаць, не хочацца. І ці ёсць у яе сын, гэта таксама невядома. Аднойчы прыходзіла яна на станцыю з падлеткам, які мог бы быць яе сынам, але яна магла таксама прывесці з сабой чужое дзіця, каб атрымаць больш адзення.

## БОМЖ — ГЭТА СТАН ДУШЫ?

Жанчыны, якім рэгулярна прыходзіцца мець справу з бамжамі ў санпункце, расказваюць, што большасць бадзяг, што праходзіць праз іх рукі, прыдумваюць жаласлівыя гісторыі, здольныя выклікаць слёзы, дзе яны фігурыруюць у якасці пакрыўджаных грамадствам «афганцаў» ці «чарнобыльцаў». Але калі адной жанчыне прапанавалі работу санітаркі на дэзінфекцыйнай станцыі, тая, не адпрацаваўшы месяц, заявіла, што брудная работа — не для яе. Напэўна, усё-такі ў большасці выпадкаў бомж — гэта не сацыяльны статус, а стан душы. Інакш як растлумачыць, што нават з надыходам вясны толькі некаторыя з іх накіроўваюцца ў сельскую мясцовасць, дзе ёсць работа і пустуе жыллё. У той жа час статыстыка сведчыць, што 91 працэнт усіх бамжоў з'яўляюцца працаздольнымі, акрамя таго 85 працэнтаў з іх маюць рабочыя спецыяльнасці. Праўда, верагоднасць таго, што яны будуць вернуты грамадству, вельмі малая. Значна лягчэй стаць бамжом, чымператварыцца зноў у чалавека. А ступень падзення бывае проста жудаснай: аднойчы медработнікам санпрапускніка, якія бачылі многае на сваім вяку, давялося стаць сведкамі карціны, калі пасля мыцця адной «пацыенткі» забіўся сцёк ад вошай, якія пакінулі шматпакутнае цела гаспадыні. Ці прыходзіцца медыкам сустракацца з выпадкамі, калі маці скардзяцца на рэзь у вачах сваіх дзяцей: усё тыя ж пачвары ўпіваюцца ў вейкі малышоў, і дастаць іх адтуль пінцэтам можа толькі акуліст.

Увогуле, ставіцца адназначна да гэтых людзей даволі складана: ёсць сярод іх і такія, жыццёвы лёс якіх сапраўды выклікае спагаду, а іх спробы выбрацца з дна жыцця дастойныя павагі. Але ўсё ж сярод той жа брацііі нямала і такіх, якія здольныя нагадзіць тут жа ў калідоры, у тым месцы, дзе яму зрабілі дабро. Так, такія выпадкі на дэзінфекцыйнай станцыі не рэдкія. А больш нахабныя могуць нават запатрабаваць грошай у медсясцёр.

## ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

Набраўшыся ўдосталь уражанняў, думалася, што мяне ўжо нічым нельга здзівіць. Як я памылялася! Па дарозе дамоў я ўбачыла, як мая суседка — адзінокая бабуля, — блізарука аглядваючыся па баках, каб, Божа барані, не ўбачылі знаёмыя, капаецца ў бачку для смецця. Я раптам зразумела, наколькі сорамна для яе было прызнацца навакольным у сваёй бездапаможнасці. І вось тут я сапраўды не вытрымала...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ЛЕСВІЦА ДА НЕБА



**Я ЛЕДЗЬ НЕ САРВАЛАСЯ з разбітых драўляных прыступак. Мой спадарожнік своечасова падаў руку: «Гэта небяспечны шлях. Толькі для выбраных, ты можаш не ўтрымацца». Памацаўшы абабітую каленку, я вырашыла зрабіць апошні крок цераз парог хаты, якую павінны знесці. Крок да тайнага жыцця пакінутай вуліцы, за якою пачынаецца неба, як сцвярджае новы знаёмы. Усё роўна, што пераступіла праз сябе.**

**АЛІК РАСЧЫНІЎ СТАРЫЯ ПЕРАКОШАНЫЯ ДЗВЕРЫ**, быццам цяжкія каваныя вароты. З рыхлай цемры пакінутай хаты прагным вокам бліснула свечка, быццам паліла ўсе масты за тымі, хто прыходзіў сюды ўпершыню.

— Ты? — рэха яго голасу пабегла па пустых пакоях. У адказ заззялі два вялізныя вокі. Алік апусціўся на калені каля імправізаванага коміна, імкнуўся ажывіць агеньчык, які ледзь трымаўся на вуголлі. Звыкла закінуў туды некалькі бульбін. Дастаў з торбы акрайчыкі хлеба — усё, на што ён сёння наспяваў. Мадона з велізарнымі вачыма ціха наблізілася да агню.

Зусім дарэчы ля коміна раптам з'явілася страва з амброзіяй у выглядзе параных буракоў, шампанскае смакам як кіпень прыемна саграваіа ў гэты ветраны дзень. Забітыя вокны не хацелі выпускаць трапяткое святло гэтага дома ў бездань мёртвай вуліцы. Напалову разабраны дах дазваляў прыбівацца сюды птушкам, якія развучыліся спяваць і лятаць у забытым Богам краі. Птушкі, здавалася, прыслухоўваліся да мовы людзей, якія жывуць з імі на адной вышыні.

— Ведаеш, усё зусім не так, як здаецца...

— Ведаю, — усміхнулася яна. — Гэты вецер спявае для нас. А пацукі, якія пазабіваліся ў куты, — нашы вартаўнікі. Яны заўсёды адчуваюць набліжэнне чужых і трывожным шамаценнем папярэджваюць пра небяспеку. Я іх не баюся.

Ён з удзячнасцю паглядзеў на яе. Агеньчыкі ізноў заміргалі ў яе вачах. Алік узяў гітару. Зараз яму не трэба з надрывам выкрыкваць словы, каб як мага болей людзей пачулі пра тое, што яму за свае шэсць гадоў бадзяжнага жыцця давялося пабачыць. Зараз ён будзе проста спяваць. Зусім па-новаму загучалі даўно знаёмыя Бобаўскія словы:

*Эй вы, как живется там?*
*У вас есть гиппопотам.*
*А мы в чулане, с дырой в кармане,*
*Но здесь забавно,*
*здесь так забавно.*

З боку тапчана са ўзбітай саломы пачулася нясмелае падвыванне.

— Гэта Мыш. Ён чамусьці заўсёды вые, калі поўня.

Аксана ўзяла ката на рукі.

— Слухай, Мыш, можа ты ў мінулым жыцці быў лунацікам? — Алік добразычліва пакудлаціў любімца ў знак падзякі за праяўленыя музычныя здольнасці. — Ён у нас таксама натура тонкая, пачуццёвая. Навучыўся падаўляць у сабе жывёльныя інстынкты, нават мышы да яго адносяцца па-сяброўску... Памятаеш, як Сана цябе падабрала аднойчы ў дождж?

— У яго быў такі адчайны позірк, — апраўдваецца Аксана.

Кот, якому гэтым вечарам было столькі ўвагі, сарамліва схіліў мордачку. Падобна, што ў хуткім часе іх чакаюць нейкія перамены, калі гаспадар, які звычайна раўнадушны да свавольстваў свайго меншага брата, раптам стаў вельмі ўважлівы. Зараз ён засяроджана цярэбіць касічку, якая растрапалася на патыліцы. Быццам бы рыхтуе сябе да адказнага кроку.

— Заўтра паедзем адсюль. Туды, дзе цяплей. Ну, хоць бы на Украіну.

Яна прамаўчала. Заўтра яны паедуць далей. Значыць, усё па-ранейшаму добра. І дзесьці ёсць яшчэ дарогі, якія не ведалі іх ног. Калі доўга сядзець на адным месцы, губляеш дарагое ўспрыняцце жыцця: перастаеш разумець шапаценне ранішняй травы, вартасць аблокаў, якія праносяцца міма. Калі прывыкнуць да нораваў або твараў адной мясцовасці, часам здаецца, што навокал нейкая біямаса, набор адасобленых клетак, жыццёвы рух якіх у тым, што адна клетка паглынае другую — як у прасцейшых мікраэлементаў.

**КАЛІ АЛІК ПЕРШЫ РАЗ ЗАДУМАЎСЯ** пра тэндэнцыю аднаклетачнасці ў людзях, дапамагла дарога, дзіўным чынам зрабіўшы нікчэмнымі праблемы «цывілізацыі». Таму што не трэба думаць, якім цябе ўбачаць іншыя людзі, а цікавіць толькі тое, што новага ты адкрыеш у іх. І не імкнешся беспадстаўна нешта значыць у гэтым свеце, а думаеш пра тое, што ён ёсць сам па сабе.

Алік таксама кімсьці некалі быў. Дзесьці вучыўся. Дзесьці ў яго ёсць дом і бацькі. У кожнага чалавека павінна быць месца, куды ён можа вярнуцца, колькі б ні вандраваў. Адны ведаюць гэта і вяртаюцца. Другія...

— У мяне ёсць дом маіх бацькоў. У гэтым доме я для іх яшчэ адзін прадмет уласнасці. Бацькоў клапоціць, каб дзеці былі апранутыя і накормленыя. І калі ўсё неабходнае, па іх мерках, ёсць, яны не ўяўляюць, чаго можа яшчэ не хапаць. Нават, калі я стаў дарослы і самастойны, я ўвесь час адчуваў залежнасць ад іх. А так я пазбавіў іх ад залішніх праблем, на святы пасылаю віншаванні, ведаюць, што жывы, значыцца, што ўсё ў парадку. Яны ўжо змірыліся з маім вандроўным існаваннем. Ланцугі роднасці могуць быць цяжкімі, калі акрамя іх людзей болей нічога не звязвае, — Алік памаўчаў, быццам перажываючы той час, калі ён наноў нарадзіўся на свет. — У «цывільным» жыцці многа ўмоўнасцей, якія, па сутнасці, значэння не маюць: мода, гульня на публіку, «рамкі прыстойнасці», комплексы... Каштоўнасць знаходзіцца ў самім чалавеку. А свабодны дух павінен знаходзіць свабоднае выражэнне. Я, напрыклад, шчыра радуюся, калі ранкам праціраю вочы ў стозе сена, мыюся пад дажджом ці каля крыніцы.

Ён не адчуваў сябе адзінокім, калі ішоў па незнаёмым горадзе. Яму заўсёды было што сказаць сабе. На кароткі час уладкоўваўся зарабіць грошай — грузчыкам, пастухом у вёсках, align="" рознарабочым — так, каб хапіла на самае неабходнае і на дарогу. Часам сустракаў такіх жа вандроўнікаў: шмат зараз маладых людзей, якім не сядзіцца на месцы. Але ні да якіх гуртоў прыбіцца не змог. Людзі — як дарогі. Бяжыць твая дарога адна — невядомая, нявытаптаная. Чым болей уліваецца ў яе іншых дарог, тым болей на ёй застаецца чужых слядоў, не заўсёды лёгкіх і праведных. Ён не хоча траціць свае сілы на чужыя дарогі, яму б сваю прайсці і захаваць без бруду. Людзі часта бесцырымонна ўліваюцца ў чужое жыццё, не думаюць пра тое, што яны нясуць другому чалавеку. Не думаюць, што бяруць такім чынам і нейкую долю адказнасці за чужы лёс.

— Таму я стараюся не падыходзіць да людзей надта блізка, — Алік падняў галаву. — Сана? Яна мае другое «я».

— Жыць у згодзе з самім сабою таксама трэба ўмець, — прадоўжыла яна яго думку.

... **ВУЛІЦА НАКАТВАЛА ХВАЛІ ЦІКАЎНЫХ.** Чаму ж не паглядзець на чалавека без роду, без племені? Паглядзець, паслухаць яго спевы, але тут жа пра сябе адзначыць, што я яшчэ, дзякуй Богу, жыву як нармальны чалавек... Адхлынулі. Гітара за плечы — цяпер можна ісці далей. Стоп. За спінай таропкія крокі. Так і ёсць: гэтыя два вокі сёння ўвесь вечар не проста слухалі, а, здавалася, угадвалі, пра што будзе наступная песня.

— Прабачце, дзяўчына, вы ідзеце вельмі марудна, я спазняюся на электрычку.

— Я еду ў тым жа напрамку.

Рашучая. Але ж дзіця зусім. Самы час марыць пра падарожжы, гледзячы па тэлевізару праграму «Вакол свету».

— Нельга табе са мной. Ты павінна жыць у палацы.

— Няма такіх палацаў, у якіх я магла б жыць.

З дзіцячага дома яна ўжо вырасла. А права на сваю сям'ю — студэнцкую — і месца ў інтэрнаце не здолела атрымаць. Душна тут, у гэтым горадзе, дзе кожны ведае, чаго хоча, і дзе няма месца тым, хто баіцца нават хацець, таму што вырас сярод слова «не».

Настырная. Але ж абламаецца хутка. Няхай, затое навучыцца цаніць сваё «нічога», калі даведаецца, што ёсць маё «ўсё».

— Чапляйся. — Ён падаў ёй руку. З непрывычкі яна і праўда хутка не вытрымала падарожжа. Але не абламалася — захварэла. У яго гара з плеч звалілася: добра, што ўсё так вызначылася, ён жа не можа яе тут чакаць, яго кліча дарога. Пакінуў Аксану ў бальніцы нейкага пасёлка пад Растовам.

Але дарога настойліва дыктавала радкі пра даверлівы твар, сумная песня сама сабой прыходзіла на розум, а спіну апальвала апошняя туга ў яе вачах. Туга, як у бяздомных сабак. Калі аднойчы ўзяў адказнасць за чужое жыццё, ужо не маеш права яе з сябе здымаць.

«Наведвальнік? — бальнічны ложак хмыкнуў. — Не можа быць, такія не вяртаюцца». Сана збянтэжана акінула постаць на парозе. У барадзе ўсмешка і штосьці новае, вельмі светлае ў вачах.

— Так, праўда?.. — яна ўспыхнула ад нечаканай думкі.

— Гэта страшней, чым ты думаеш. Для мяне. Гэта лёс.

Потым ужо яны вырашылі, што тады яна назаўсёды перахварэла настальгіяй па «цывільным жыцці». Дарога зараз у іх адна на дваіх. І песня. Пасля двух гадоў падваротняў, гарышчаў і самых звычайных шалашоў яна па-ранейшаму выбірае свой палац — пад неабсяжным дахам неба. Аднойчы сустрэла сваіх былых сябровак. У дзіцячым доме пра яе зараз гавораць: «Пайшла па дрэнным шляху». Але, магчыма, не бывае шляхоў дрэнных або добрых. Ёсць проста свае шляхі, якія некаму трэба прайсці. Для сябе. А калі не для сябе, то для іншых.

На іх шляху няма межаў. Пабываўшы ўжо ў многіх землях і сярод многіх народаў, яны зразумелі, што прызваныя стаць грамадзянамі Свету.

*Я хочу туда,*
*куда не долетают птицы,*
*И где каждый миг,*
*как недопетый сон.*
*Я хочу улыбкой пробежать*
*по лицам*
*Чтобы кто-то мог остановиться,*
*И подумать,*
*что неправ был он.*

**НА СВІТАННІ ДОМ АПУСЦЕЎ.** Зляцеўшыя з петляў дзверы, паскрыпваючы, клікалі на дапамогу да патухлага агню. Магчыма, дзесьці ўсё ж такі знойдзецца месца, дзе яны захочуць застацца назаўсёды. А зараз яны пайшлі туды, дзе цёпла. Да сонца.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

*Дадатак да Пастановы Вярхоўнага Савета РБ № 396-XIII ад 25.06.96 г.*

# ПАЛАЖЭННЕ АБ ПРАХОДЖАННІ СЛУЖБЫ Ў ОРГАНАХ ПРАКУРАТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АГУЛЬНЫЯ ПАНЯЦЦІ

1. Гэта Палажэнне вызначае парадак праходжання службы пракурорскімі работнікамі.

2. Пракурорскія работнікі пры выкананні службовых абавязкаў павінны:

дзейнічаць строга ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь;

добрасумленна адносіцца да даручанай справы, праяўляць ініцыятыву, старанне і настойлівасць, дабівацца ўхілення парушэнняў законаў, ад каго б яны ні зыходзілі;

пры разглядзе зваротаў грамадзян, службовых асоб і арганізацый дабівацца высокай эфектыўнасці пракурорска-следчай дзейнасці, усямерна абараняць інтарэсы асобы, грамадства і дзяржавы;

захоўваць дзяржаўную, службовую і іншую тайну, якая ахоўваецца законам;

пастаянна ўдасканальваць сваё прафесійнае майстэрства, даражыць гонарам пракурорскага работніка, захоўваць і памнажаць лепшыя традыцыі пракуратуры.

3. Іншыя пытанні працоўных адносін, не прадугледжаныя гэтым Палажэннем, рэгулююцца заканадаўствам аб працы і Законам Рэспублікі Беларусь «Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь».

## НАЗНАЧЭННЕ НА ПАСАДЫ, ПЕРАМЯШЧЭННЕ ПА СЛУЖБЕ, ВЫЗВАЛЕННЕ АД ПАСАД

4. Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь выбіраецца Вярхоўным Саветам па прадстаўленню Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Намеснікі Генеральнага пракурора, члены калегіі рэспубліканскай пракуратуры назначаюцца і вызваляюцца Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь са згоды Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

5. Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь назначае на пасады і вызваляе ад пасад:

начальнікаў структурных падраздзяленняў апарату рэспубліканскай пракуратуры, іх намеснікаў, старшых пракурораў і пракурораў, старшых памочнікаў і памочнікаў Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь, старшых следчых па асабліва важных справах, следчых па асабліва важных справах і следчых-крыміналістаў рэспубліканскай пракуратуры;

пракурораў абласцей, горада Мінска і прыроўненых да іх Беларускага ваеннага і Беларускага транспартнага пракурораў, іх намеснікаў;

пракурораў раёнаў, гарадоў і прыроўненых да іх міжраённых, міжгарнізонных ваенных, транспартных, прыродаахоўных пракурораў і пракурораў па нагляду за выкананнем законаў у папраўча-працоўных установах;

членаў калегіі пракуратур абласцей, горада Мінска, Беларускай ваеннай і Беларускай транспартнай пракуратур;

галоўных (старшых) бухгалтараў пракуратур абласцей, горада Мінска і Беларускай транспартнай пракуратуры.

Начальнікі аддзелаў пракуратур абласцей, горада Мінска, Беларускай ваеннай і Беларускай транспартнай пракуратур і старшыя памочнікі пракурораў па рабоце з кадрамі і павышэнню кваліфікацыі назначаюцца на пасады і вызваляюцца ад пасад пасля папярэдняга ўзгаднення з рэспубліканскай пракуратурай.

6. Пракуроры абласцей, горада Мінска і прыроўненыя да іх Беларускі ваенны і Беларускі транспартны пракуроры назначаюць на пасады і вызваляюць ад пасад:

начальнікаў структурных падраздзяленняў, іх намеснікаў, старшых пракурораў і пракурораў; старшых памочнікаў і памочнікаў, старшых следчых па важнейшых справах, следчых па важнейшых справах і следчых-крыміналістаў апаратаў пракуратур абласцей, горада Мінска і прыроўненых да іх пракуратур;

намеснікаў, старшых памочнікаў і памочнікаў пракурораў раёнаў (гарадоў), міжраённых і прыроўненых да іх міжгарнізонных ваенных, транспартных, прыродаахоўных пракурораў, пракурораў па нагляду за выкананнем законаў у папраўча-працоўных установах, старшых следчых і следчых раённых і прыроўненых да іх пракуратур.

7. Асобы, якія не маюць вопыту практычнай работы па спецыяльнасці, праходзяць у органах пракуратуры стажыраванне на працягу шасці месяцаў. Парадак стажыравання вызначаецца Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь.

8. Пракурорскім работнікам, якія знаходзяцца паміж сабой у шлюбе, блізкай роднасці або сваяцтве, не дазваляецца праходзіць службу ў органах пракуратуры пры ўмове, калі яна будзе звязана з непасрэднай падначаленасцю ці падкантрольнасцю аднаго з іх другому.

9. Перавод па службе можа ажыццяўляцца:

на вышэйшыя пасады — у парадку павышэння па службе;

на роўныя пасады — у сувязі з правядзеннем арганізацыйна-штатных мерапрыемстваў; для больш мэтазгоднага выкарыстання наяўнага вопыту работы; па асабістай просьбе;

на ніжэйшыя пасады — пры скарачэнні штатаў і немагчымасці пераводу або перамяшчэння на роўную пасаду і са згоды работніка; па стану здароўя ў адпаведнасці з медыцынскім заключэннем; па асабістай просьбе работніка; у парадку дысцыплінарнага спагнання; па выніках атэстацыі.

Падставы для пераводу ўказваюцца ў адпаведным загадзе.

10. Павышэнне пракурорскага работніка па службе праводзіцца ў залежнасці ад яго прафесійных якасцей, дасягнутых вынікаў на даручаным участку работы і праяўленых здольнасцей да выканання абавязкаў на вышэйшай пасадзе.

У мэтах своечасовага замяшчэння вакантных пасад ствараецца рэзерв кадраў на вылучэнне.

11. У мэтах паляпшэння падбору, расстаноўкі і выхавання кадраў, стымулявання павышэння кваліфікацыі і эфектыўнасці іх работы, забеспячэння больш цеснай сувязі ўзроўню заработнай платы з вынікамі працы праводзіцца перыядычная атэстацыя пракурорскіх работнікаў. Парадак атэстацыі вызначаецца Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь.

## КЛАСНЫЯ ЧЫНЫ

12. Устанавіць для пракурорскіх работнікаў адпаведныя воінскім званням наступныя класныя чыны:

| | |
|---|---|
| дзяржаўны саветнік юстыцыі 1 класа | — генерал-палкоўнік |
| дзяржаўны саветнік юстыцыі 2 класа | — генерал-лейтэнант |
| дзяржаўны саветнік юстыцыі 3 класа | — генерал-маёр |
| старшы саветнік юстыцыі | — палкоўнік |
| саветнік юстыцыі | — падпалкоўнік |
| малодшы саветнік юстыцыі | — маёр |
| юрыст 1 класа | — капітан |
| юрыст 2 класа | — старшы лейтэнант |
| юрыст 3 класа | — лейтэнант |
| малодшы юрыст | — малодшы лейтэнант. |

13. У адпаведнасці з займаемай пасадай і стажам работы пракурорскім работнікам прысвойваюцца наступныя класныя чыны:

| Займаемая пасада | Вышэйшы класны чын |
|---|---|
| Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь | дзяржаўны саветнік юстыцыі 1 класа |
| Першы намеснік, намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь | дзяржаўны саветнік юстыцыі 2 класа |
| Пракурор вобласці, горада Мінска і прыроўненыя да іх Беларускі ваенны і Беларускі транспартны пракуроры | дзяржаўны саветнік юстыцыі 3 класа |
| Начальнік структурнага падраздзялення апарату рэспубліканскай пракуратуры, яго намеснік, старшы памочнік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь, старшы следчы па асабліва важных справах, следчы па асабліва важных справах, старшы следчы-крыміналіст, следчы-крыміналіст рэспубліканскай пракуратуры, намеснік пракурора вобласці, горада Мінска і Беларускага ваеннага і Беларускага транспартнага пракурораў, пракурор горада, міжраённы пракурор, пракурор раёна ў горадзе, прыродаахоўны пракурор, пракурор па нагляду за выкананнем законаў у папраўча-працоўных установах | старшы саветнік юстыцыі |
| Старшы пракурор і пракурор структурнага падраздзялення апарату рэспубліканскай пракуратуры, памочнік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь; начальнік аддзела планавання, фінансавання і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, галоўны бухгалтар, галоўны спецыяліст рэспубліканскай пракуратуры; начальнік структурнага падраздзялення пракуратуры вобласці, горада Мінска, Беларускай ваеннай і Беларускай транспартнай пракуратур, іх намеснікі, старшыя памочнікі адпаведных пракурораў, старшы следчы па важнейшых справах, следчы па важнейшых справах, следчы-крыміналіст пракуратуры вобласці, горада Мінска і прыроўненай да іх пракуратуры, пракурор раёна, намеснік міжраённага пракурора, пракурора горада, пракурора раёна ў горадзе, транспартнага, прыродаахоўнага пракурора, пракурора па нагляду за выкананнем законаў у папраўча-працоўных установах | саветнік юстыцыі |
| Намеснік начальніка аддзела планавання, фінансавання і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, намеснік галоўнага бухгалтара рэспубліканскай пракуратуры; памочнік пракурора вобласці, горада Мінска і прыроўненага да іх пракурора; старшы пракурор і пракурор структурнага падраздзялення, начальнік фінансава-гаспадарчага аддзела, галоўны бухгалтар, галоўны спецыяліст пракуратуры вобласці, горада Мінска і прыроўненай да іх пракуратуры; намеснік пракурора раёна, старшы памочнік міжраённага пракурора, міжгарнізоннага ваеннага пракурора, пракурора раёна ў горадзе, транспартнага, прыродаахоўнага пракурора, пракурора па нагляду за выкананнем законаў у папраўча-працоўных установах; старшы следчы міжраённай пракуратуры, пракуратуры раёна (горада) і прыроўненай да іх пракуратуры | малодшы саветнік юстыцыі |
| Вядучы спецыяліст рэспубліканскай пракуратуры, памочнік міжраённага пракурора, пракурора раёна (горада), пракурора па нагляду за выкананнем законаў у папраўча-працоўных установах і прыроўненых да іх пракурораў; следчы пракуратуры раёна і прыроўненай да яе пракуратуры | юрыст 1 класа |
| Спецыяліст 1-й катэгорыі рэспубліканскай пракуратуры; вядучы спецыяліст пракуратуры вобласці, горада Мінска, Беларускай ваеннай і Беларускай транспартнай пракуратур | юрыст 2 класа |
| Спецыяліст 1-й катэгорыі пракуратуры вобласці, горада Мінска, Беларускай ваеннай і Беларускай транспартнай пракуратур, спецыяліст 2-й катэгорыі рэспубліканскай пракуратуры | юрыст 3 класа |
| Памочнік міжраённага пракурора, пракурора раёна, пракурора горада 3-й групы, следчы раённага звяна, якія не маюць вышэйшай юрыдычнай адукацыі; спецыяліст рэспубліканскай пракуратуры, спецыяліст 2-й катэгорыі пракуратуры вобласці, горада Мінска і прыроўненых да іх пракуратур; спецыяліст пракуратур абласцей, горада Мінска і прыроўненых да іх пракуратур; памочнік следчага | малодшы юрыст |

14. Прысваенне класных чыноў праводзіцца ў парадку чарговасці і па сканчэнні наступных тэрмінаў:

| Класны чын | Тэрмін прабывання ў класным чыне |
|---|---|
| Малодшы юрыст | 1 год |
| Юрыст 3 класа | 2 гады |
| Юрыст 2 класа | 3 гады |
| Юрыст 1 класа | 3 гады |
| Малодшы саветнік юстыцыі | 4 гады |
| Саветнік юстыцыі | 5 гадоў |

Тэрміны прабывання ў класных чынах старшага саветніка юстыцыі і вышэй не ўстанаўліваюцца.

Заўвага. *Класны чын «юрыст 3 класа» прысвойваецца пасля стажыравання асобам, якія закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы па юрыдычнай спецыяльнасці з тэрмінам навучання чатыры гады і больш. Гэтым асобам тэрмін прабывання ў класным чыне «юрыст 3 класа» ўстанаўліваецца ў адзін год.*

15. Класныя чыны дзяржаўнага саветніка юстыцыі 1, 2 і 3 класа прысвойваюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь, Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь — па прадстаўленню Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Іншыя класныя чыны прысвойваюцца Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь на падставе прадстаўленняў, якія ўносяцца пракурорамі абласцей, горада Мінска і прыроўненымі да іх пракурорамі, намеснікамі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.

Воінскія званні пракурорам і следчым ваенных пракуратур прысвойваюцца ў адпаведнасці з Палажэннем аб праходжанні ваеннай службы афіцэрскім саставам Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь.

16. Пры прыёме на работу ў пракуратуру асоб, якія маюць вопыт юрыдычнай работы, Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь мае права ў межах сваёй кампетэнцыі прысвоіць ім класны чын, што адпавядае пасадзе, або хадайнічаць аб прысваенні такога класнага чыну.

Пры пераходзе на службу ў пракуратуру асоб з органаў ваеннай юстыцыі, Міністэрства ўнутраных спраў, Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь ім можа прысвойвацца класны чын, які адпавядае наяўнаму ў іх воінскаму (спецыяльнаму) званню.

17. У асобных выпадках за прыкладнае выкананне пракурорскімі работнікамі службовага абавязку і дасягнутыя поспехі ў рабоце па ўмацаванню законнасці Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь мае права:

а) прысвойваць работнікам чарговыя класныя чыны да сканчэння тэрмінаў, указаных у пункце 14 гэтага Палажэння;

б) пры назначэнні на вышэйшую пасаду прысвойваць класны чын без захавання чарговасці, але не больш чым на два чыны вышэй таго, які мае работнік;

в) прысвойваць чарговы класны чын вышэй за вызначаны для займаемай пасады;

г) уносіць прадстаўленні Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь аб прысваенні класнага чыну дзяржаўнага саветніка юстыцыі 1, 2 і 3 класа.

Пракурорскія работнікі, якія маюць дысцыплінарныя спагнанні, да прысваення класнага чыну не прадстаўляюцца да зняцця спагнання.

18. Пракурорскія работнікі, якім прысвоены класныя чыны, знаходзяцца ў іх пажыццёва. За парушэнні службовых абавязкаў, працоўнай дысцыпліны, учыненне дзеянняў, якія дыскрэдытуюць званне пракурорскага работніка, ён можа быць паніжаны ў класным чыне. Пазбаўленне класнага чыну можа мець месца толькі пры звальненні работніка з органаў пракуратуры.

Паніжэнне ў класным чыне і пазбаўленне класнага чыну дзяржаўных саветнікаў юстыцыі 1, 2 і 3 класа праводзіцца ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у адносінах да іншых класных чыноў — загадам Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.

Аднаўленне пракурорскіх работнікаў у ранейшым класным чыне праводзіцца толькі ў парадку атэстацыі па сканчэнні не менш двух гадоў.

19. Пракурорскім работнікам, якія маюць класныя чыны, устанаўліваюцца адпаведныя даплаты да службовых акладаў; пры выкананні службовых абавязкаў яны носяць форменнае абмундзіраванне са знакамі адрознення.

## ЗААХВОЧВАННЕ І ЎЗНАГАРОДЖАННЕ

20. Пракурорскія работнікі заахвочваюцца і ўзнагароджваюцца за ўзорнае выкананне службовых абавязкаў, ініцыятыву і іншыя заслугі па службе, якія садзейнічаюць паспяховаму вырашэнню задач, што стаяць перад органамі пракуратуры.

Мерамі заахвочвання з'яўляюцца:

а) падзяка;

б) грашовая прэмія;

в) падарунак;

г) каштоўны падарунак;

д) Грамата Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь;

е) датэрміновае прысваенне класнага чыну;

ж)узнагароджанне нагрудным знакам «Ганаровы работнік Пракуратуры Рэспублікі Беларусь»;

з) прадстаўленне да ўзнагароджання дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь.

21. Прымяненне мер заахвочвання ажыццяўляецца ў наступным парадку:

а) падзяка аб'яўляецца пракурорамі — кіраўнікамі пракуратур усіх узроўняў;

б) заахвочванне грашовай прэміяй, узнагароджанне падарункам, каштоўным падарункам, Граматай Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь, нагрудным знакам «Ганаровы работнік Пракуратуры Рэспублікі Беларусь» праводзяцца Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь; заахвочванне грашовай прэміяй, узнагароджанне падарункам праводзяцца таксама пракурорамі абласцей, горада Мінска і іншымі прыроўненымі да іх пракурорамі;

в) датэрміновае прысваенне класнага чыну праводзіцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, а таксама Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з гэтым Палажэннем.

22. За працяглую і бездакорную службу пракурорскія работнікі могуць быць узнагароджаны нагрудным знакам «Ганаровы работнік Пракуратуры Рэспублікі Беларусь» з адначасовым уручэннем адпаведнага пасведчання. Парадак прадстаўлення да ўзнагароджання нагрудным знакам «Ганаровы работнік Пракуратуры Рэспублікі Беларусь» вызначаецца Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь.

23. Прадстаўленне да дзяржаўных узнагарод і ганаровых званняў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь на падставе рашэння калегіі рэспубліканскай пракуратуры.

24. У выпадку прызнання неабходным прымянення да пракурорскага работніка мер заахвочвання, якія выходзяць за межы паўнамоцтваў кіраўніка адпаведнай пракуратуры, гэты кіраўнік уносіць прадстаўленне вышэйстаячаму пракурору.

25. Звесткі аб заахвочваннях або ўзнагародах заносяцца ў асабовую справу пракурорскага работніка і працоўную кніжку.

26. Не дапускаецца заахвочванне або прадстаўленне да ўзнагароджання пракурорскага работніка пры наяўнасці ў яго дысцыплінарнага спагнання.

## ДЫСЦЫПЛІНАРНАЯ АДКАЗНАСЦЬ

27. Пракурорскі работнік нясе дысцыплінарную адказнасць за парушэнне службовых абавязкаў, працоўнай дысцыпліны, учыненне дзеянняў, якія дыскрэдытуюць званне пракурорскага работніка.

Дысцыплінарнымі спагнаннямі з'яўляюцца:

а) заўвага;

б) вымова;

в) строгая вымова;

г) паніжэнне ў класным чыне;

д) пазбаўленне нагруднага знака «Ганаровы работнік Пракуратуры Рэспублікі Беларусь»;

е) аб'яўленне няпоўнай службовай адпаведнасці;

ж) паніжэнне ў пасадзе;

з) звальненне;

і) звальненне з пазбаўленнем класнага чыну.

28. Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь мае права накладаць дысцыплінарныя спагнанні, прадугледжаныя гэтым Палажэннем, за выключэннем:

а) звальнення і паніжэння ў пасадзе сваіх намеснікаў;

б) прыцягнення да іншай дысцыплінарнай адказнасці сваіх намеснікаў без згоды Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

в) паніжэння ў класным чыне і звальнення з пазбаўленнем класнага чыну пракурорскіх работнікаў, якім класныя чыны прысвоены Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь;

г) звальнення або паніжэння ў пасадзе ў парадку дысцыплінарнага спагнання членаў калегіі рэспубліканскай пракуратуры без згоды Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

29. Пракуроры абласцей, горада Мінска і прыроўненыя да іх пракуроры маюць права накладаць на ўсіх падначаленых ім работнікаў дысцыплінарныя спагнанні, акрамя паніжэння ў класным чыне, пазбаўлення нагруднага знака «Ганаровы работнік Пракуратуры Рэспублікі Беларусь», звальнення з пазбаўленнем класнага чыну. Яны не маюць права накладаць дысцыплінарныя спагнанні на сваіх намеснікаў, а таксама звальняць або паніжаць у пасадзе членаў калегій, пракурораў раёнаў (гарадоў), міжраённых і прыроўненых да іх пракурораў.

30. Пракуроры раёнаў (гарадоў), міжраённыя і прыроўненыя да іх пракуроры маюць права накладаць дысцыплінарныя спагнанні ў выглядзе заўвагі і вымовы на падначаленых ім работнікаў, за выключэннем сваіх намеснікаў.

31. Перад накладаннем дысцыплінарнага спагнання ад пракурорскага работніка ў абавязковым парадку павінна быць запатрабавана пісьмовае тлумачэнне. Адмова ад дачы тлумачэння не з'яўляецца перашкодай для накладання дысцыплінарнага спагнання. Пры неабходнасці назначаецца службовае расследаванне.

32. Калі ступень цяжару праступка патрабуе накладання на пракурорскага работніка дысцыплінарнага спагнання, якое не мае права прымяніць дадзены пракурор, апошні звяртаецца з адпаведным прадстаўленнем да вышэйстаячага пракурора.

33. За адзін і той жа праступак можа быць накладзена толькі адно дысцыплінарнае спагнанне.

34. Дысцыплінарнае спагнанне накладаецца не пазней чым праз месяц з дня выяўлення праступка, не лічачы часу хваробы пракурорскага работніка, знаходжання яго ў водпуску, а таксама часу правядзення службовага расследавання.

Дысцыплінарнае спагнанне за парушэнне службовых абавязкаў, працоўнай дысцыпліны, учыненне дзеянняў, якія дыскрэдытуюць званне пракурорскага работніка, у любым выпадку не можа накладацца пазней чым праз шэсць месяцаў з дня ўчынення праступка або правапарушэння. У гэты тэрмін не ўключаецца час расследавання па крымінальнай справе.

У выпадку ўчынення работнікам дзеянняў, не сумяшчальных з займаемай у органах пракуратуры пасадай, звальненне яго праводзіцца незалежна ад тэрміну, які прайшоў з дня ўчынення гэтых дзеянняў.

35. Дысцыплінарнае спагнанне пракурорскаму работніку аб'яўляецца загадам, які паведамляецца яму пад распіску ў пяцідзённы тэрмін і прыкладаецца да яго асабовай справы.

36. Вышэйстаячы пракурор мае права адмяніць спагнанне, узмацніць яго або змякчыць, абгрунтаваўшы ў загадзе сваё рашэнне. Узмацненне дысцыплінарнага спагнання можа быць праведзена з захаваннем тэрмінаў, установленых пунктам 34 гэтага Палажэння.

Калі ў якасці дысцыплінарнага спагнання было прыменена паніжэнне ў пасадзе або звальненне, то, прызнаўшы такое спагнанне незаконным, вышэйстаячы пракурор выдае загад аб аднаўленні пракурорскага работніка на ранейшай пасадзе і выплаце яму сярэдняга заработку за час вымушанага прагулу з дня звальнення або розніцы ў заработнай плаце за час работы на ніжэйаплатнай пасадзе, але не больш чым за два гады.

37. Пракурорскі работнік лічыцца не маючым дысцыплінарнага спагнання, прадугледжанага падпунктамі «а»—«ж» пункта 27 гэтага Палажэння, калі на працягу года з дня накладання спагнання ён не будзе падвергнуты новаму дысцыплінарнаму спагнанню. Заканчэнне гадавога тэрміну не цягне за сабой вяртання нагруднага знака «Ганаровы работнік Пракуратуры Рэспублікі Беларусь», аднаўлення на ранейшай пасадзе або аднаўлення ранейшага класнага чыну.

Дысцыплінарнае спагнанне можа быць знята загадам пракурора, які наклаў яго, або загадам вышэйстаячага пракурора і да сканчэння года, калі работнік станоўча зарэкамендаваў сябе па службе.

# Вялікая слава і маленькія сакрэты опернай прымы

**Імя гераіні сённяшняй «Гасцёўні» добра вядома аматарам оперы. Тамара Ніжнікава, народная артыстка, была нязменнай прымай Беларускага Дзяржаўнага тэатра оперы і балета некалькі дзесяцігоддзяў. Яе каларатурнае сапрана (для недасведчаных: гэта самы высокі жаночы голас) гучала з многіх вядомых сцэн, дорачы сотням гледачоў цудоўны і загадкавы свет опернага мастацтва.**

**Была сцэна, была слава, былі апладысменты... Цяпер Тамара Мікалаеўна ўжо не спявае. Яна толькі вучыць спяваць іншых. Прадчуваю заўвагу некаторых скептыкаў: маўляў, чаму не пісала пра артыстку тады, калі яе імя было на афішах, навошта пісаць зараз, калі насупраць яе роляў на тых жа афішах стаяць іншыя прозвішчы, сёння не менш вядомыя... Што ж, я з артысткай крыху размінулася ў часе і чакаць яе за кулісамі пасля чарговай прэм'еры, што прайшла «на ўра», не магла з тае простае прычыны, што, калі яе слава была ў зеніце, маё жыццё толькі пачыналася (у самым прамым сэнсе гэтых слоў). Па-другое, падумалася: чалавек, які пакінуў сцэну, але жыве ёю, раскажа пра сакрэты гэтай сцэны з большай ахвотай і шчырасцю, чым тыя, што спяваюць на ёй сёння. Тым больш Тамары Ніжнікавай ёсць што ўспомніць з недалёкага мінулага і пра што расказаць у цяперашнім часе.**

## 1. ПРА ШТО ПЫТАЎСЯ ЖУРНАЛІСТ

### Пра апладысменты

Яны заўжды суправаджаюць акцёра. Усё жыццё артыста — суцэльны шквал апладысментаў. Яны бываюць розныя: поўныя захаплення і паблажлівыя, удзячныя і спачувальныя. Але кожны артыст захоўвае ў памяці адну рэакцыю глядзельнай залы, якая найбольш здзівіла і ўразіла...

*— Гэта было падчас гастроляў у Калінінградзе, — успамінае Тамара Мікалаеўна. — Мне тады было трыццаць гадоў, год назад я атрымала званне народнай артысткі. У дзень Ваенна-Марскога Флоту мы паехалі з канцэртам для маракоў у горад Балтыйск. Вядучы аб'яўляе: «Выступае народная артыстка...» Я выходжу на сцэну і... спалохана заміраю. Звычайна артыста, а тым больш, калі аб'яўляюць, што народны, сустракаюць апладысментамі, а тут — ніводнага гуку з залы. Толькі бачу, як цьмяна пабліскваюць медалі і чую дыханне паўтары тысячы чалавек... Потым у зале — смех. Я зусім зніякавела, стала думаць, што нешта не так у маёй знешнасці. І нарэшце — апладысменты. Я яшчэ нічога не спела, нават слова не сказала, а якія апладысменты!..*

Толькі пасля канцэрта ёй растлумачылі, што гледачы проста здзівіліся, убачыўшы, што народная артыстка — зусім маладая жанчына, ў сціплай блакітнай сукенцы з сабранымі ззаду косамі. Зала здзіўлена маўчала, а калі зразумела, што тая самая народная — сапраўды яна, грымнула апладысментамі.

### Пра тое, як усё пачыналася

Летам страшнага 41-га дзяўчынка павінна была ехаць у Маскву на фестываль дзіцячай творчасці, прадстаўляць Паволжа. Але грымнула вайна, і ў Маскву Тамара не паехала. Праўда, паехала крыху пазней — вучыцца пець...

У дзяўчынкі заўсёды была нейкая мара. У шостым класе яна захапілася авіяцыяй, усур'ёз хацела стаць інжынерам-канструктарам. Увесь пакой быў завалены драўлянымі мадэлямі самалётаў. Тамара рыхтавалася да скачка з парашутам... Але ў восьмым класе іх павялі на ўроку біялогіі ў «анатамічку». І — бывайце самалёты: дзяўчына цвёрда рашыла стаць урачом. Настолькі цвёрда, што пасля заканчэння школы падала дакументы ў Самарскі медыцынскі.

Але заўсёды была мара, якая здавалася і не марай зусім — занадта дасягальнай. Дзяўчына хацела спяваць. І яна спявала. Нават калі выразала дэталі для самалётаў ці бачыла сябе ў белым халаце за хірургічным сталом. Яна з дзяцінства чула прыгожыя галасы і прыгожыя спевы — бацька быў вядучым тэнарам царкоўнага хору... Таму калі ў абласным аддзеле культуры ледзь не прымусілі ехаць у Маскоўскую кансерваторыю — паслухалася, паехала. Праўда, без дакументаў. Дакументы засталіся ў медыцынскім інстытуце...

Потым былі цяжкія і дзівосныя гады вучобы ў Маскве, у таленавітага педагога Марыі Уладзіміравай, роднай сястры славутай Валерыі Барсавай, якая таксама ўзяла маладую спявачку пад сваю апеку. Потым, пасля заканчэння, — шматлікія запрашэнні на працу ў Перм, Саратаў, родную Самару... Потым — тэатр Станіслаўскага, у які прынялі адразу ж, як толькі спела арыю Разіны без падрыхтоўкі і нават без слоў... Потым — сустрэча з Ларысай Александроўскай і рашэнне ехаць у Мінск. У Мінск 49-га года.

*— Масты ў горадзе з прабоінамі ад снарадаў, замест дамоў — адны шкілеты, вакол тэатра пасвяцца каровы. Далі нам з мужам пакойчык у тэатры, на самым версе. У ім аднаспальны жалезны ложак. Мы на ім ноччу па камандзе паварочваліся: «Направа — раз-два!»...*

Потым маладых артыстаў накіравалі ў Албанію, выкладаць у ліцэі мастацтваў. Накіравалі на чатыры гады, але праз два з паловай яны вярнуліся ў Мінск: Тамара захацела спяваць. І пачалося як раней — рэпетыцыі, прэм'еры, ролі...

### Пра ролі самыя любімыя і самыя цяжкія

**— Тамара Мікалаеўна, не буду пытацца, якая самая любімая ваша роля. Лепш так: у якой ролі вы менш за ўсё пераўвасабляліся, у якой гераіні найбольш адчувалі самую сябе?**

*— Найбольш блізкая мне па духу Разіна з «Севільскага цырульніка». Столькі запалу, столькі жыцця... А наогул усе свае ролі проста абажаю. Віялета з «Травіяты», Лакмэ, Джыльда... Але Разіна — мая самая першая і самая любімая гераіня.*

**— А якая самая цяжкая роля — у плане тэхнікі выканання?**

*— Несумненна, партыя Лакмэ з аднайменнай оперы. Там тры акты трэба пець вельмі напружана, патрэбна не толькі валоданне голасам, але і вынослівасць, і фізічнае здароўе.*

**— У які вобраз было ўвайсці найбольш цяжка?**

*— Неяк удавалася знаходзіць кожны вобраз. Але Віялету Валеры ў «Травіяце», калі мне было дваццаць тры гады, я адмовілася пець, хаця па задуме гераіні дваццаць адзін год. Каб сыграць яе, трэба было пражыць яе жыццём. А вопыту пераўвасаблення я тады амаль не мела. Ды што вопыт! Нават праз гады, калі ён прыйшоў, колькі ні пела Віялету — усю душу мне вымучаюць гэтыя спевы. Такі лёс, такая трагедыя! Я пасля «Травіяты» на наступны дзень нават размаўляць ні з кім не хацела — пад уражаннем ад спектакля ...*

### Пра значэнне слоў «сысці са сцэны»

У пакоі Тамары Мікалаеўны шмат яе ўласных партрэтаў. Маладая, прыгожая, у розных ролях... Ці не балюча штодня глядзець на іх, як на прывіды мінулага? Ці не балюча сыходзіць са сцэны, усведамляючы, што ніколі на яе не вернешся?

*— Лепш сысці са сцэны на пяць гадоў раней, чым на пяць хвілін пазней, — катэгарычна заявіла артыстка. — Я лічу, што пайшла своечасова, і не раблю з гэтага ніякай трагедыі. Я проста закрыла дзверы і пайшла, хоць чула за спінай шматлікія галасы: «Вы яшчэ можаце пець!»... Праўда, першы год у тэатр на спектаклі не хадзіла: баялася самой сябе. А цяпер спакойна сяджу ў глядзельнай зале, але радуюся і перажываю не з героямі на сцэне, а з артыстамі, якія іх іграюць.*



### Пра вучняў

Вучняў у Тамары Ніжнікавай шмат. І сённяшніх, і ўчарашніх, тых, якія сёння — лаўрэаты, вядучыя спевакі. Поспехам учарашніх педагог радуецца, як не радавалася сваім уласным. Сённяшніх падахвочвае, шкадуе, папракае, карацей, вучыць спяваць...

*— Нягледзячы на некаторыя зрывы, якія бываюць не часта, у маім класе ў Акадэміі музыкі добрая, спакойная творчая атмасфера. Я стараюся, каб мае вучні былі вытанчанымі, захопленымі асобамі, інтэлігентнымі людзьмі. Голас — гэта толькі інструмент. Я хачу, каб яны зразумелі, што ўсё залежыць ад таго, як ты навучышся валодаць гэтым інструментам.*

*...Пра сваіх вучаніц я ведаю, напэўна, больш, чым іх бацькі. Калі ў чалавека нешта здарылася, ён не можа пець. Я заўважаю гэта і стараюся дапамагчы. Хаця б ласкавым словам. Глядзіш — яна паплача ў цябе на плячы, а потым устане, плечы расправіць — і пайшоў голас, пайшла ўсмешка, яна — актрыса, яна — спявае!..*

### Пра тое, што не збылося

**— Тамара Мікалаеўна, зараз, калі сцэна ў мінулым, ці няма шкадавання аб той ролі, якую вы хацелі спець, ды так і не змаглі ці не здолелі?**

*— Такога пачуцця няма. Здаецца, я спела ўсё, што магла і хацела.*

## 2. А ГЛЯДАЧ ЦІКАВІЎСЯ...

### ... інтрыгамі

**— Тамара Мікалаеўна, ці «падкладвалі свінню» вам і ці было такое адчуванне, што вы самі яе некаму «падклалі»?**

*— Я прыйшла ў тэатр з цудоўнымі людзьмі. Усе былі проста апантаныя тэатрам. Як мы працавалі! Мы давалі па пяць-шэсць прэм'ер на год. Нам проста не было часу на інтрыгі і калідорную балбатню. Калі мне штонебудзь не падабалася, я ўставала і гаварыла аб гэтым пры ўсіх, а не шапталася ў закутках. А наогул, мне не было патрэбы плесці інтрыгі: мне заўжды давалі пець тое, што я хацела...*

### ... сямейным становішчам

Устойлівае меркаванне публікі: калі ў сям'і хоць адзін артыст, сям'я не моцная. А калі абое, сям'і няма наогул... Тамара Мікалаеўна мяне як гледача не расчаравала: у яе было два шлюбы, і абодва не вечныя...

*— ...Але я ніколі не сварылася і не траціла сувязь са сваімі каханымі. Дзяцей мы выхоўвалі разам. Мой першы муж зараз у Маскве, выкладае ў вучылішчы імя Гнесіных, другі тут, у Мінску, мы з ім нават суседзі. І з тым, і з другім у нас добрыя прыяцельскія адносіны... У маім жыцці было дзве святыні: дзеці і мастацтва. Так атрымалася, што больш у гэта жыццё я не пусціла нікога...*

*Цяжка сумяшчаць дзяцей і сцэну. Але калі не ўмееш гэтага рабіць,- даводзіцца адмаўляцца ці ад таго, ці ад другога, што ў аднолькавай ступені балюча. Я рада, што мне ўдалося пазбегнуць такога выбару... Бывае, выходзячы на спектакль, закрываеш дзверы, за якімі плача тваё хворае дзіця. Сэрца крывёй абліваецца. Але ў тэатры ты артыстка. І ты іграеш, пяеш, усміхаешся, прымушаючы ўсе думкі заставацца з табой, на сцэне. А як толькі закрыецца заслона — хутчэй дамоў, да тых закрытых дзвярэй, за якімі ты зноў можаш адчуць сябе маці.*

### ...рэжымам і дыетай

Амаль усе оперныя спявачкі далёка не хударлявыя. Неспакушаны глядач лічыць, што, каб падтрымліваць голас, яны захоўваюць нейкую асобую дыету, якая і не дазваляе мець стройны стан... Але Тамара Мікалаеўна толькі пасмяялася з такіх маіх разважанняў. Ніякага спецыяльнага рацыёну ў оперных артыстаў няма. Вядома, перад рэпетыцыяй, а тым больш перад спектаклем, не будзеш есці вострае ці салёнае — захочацца піць. Увогуле, дзень перад спектаклем амаль галодны: наясіся — не будзе хадзіць дыяфрагма, не здолееш набраць у лёгкія патрэбную колькасць паветра... Наогул, усё залежыць ад складу чалавека: калі ён хударлявы, то хударлявым і застанецца, і гэта зусім не значыць, што ён будзе горш спяваць за таго, хто ад прыроды схільны да паўнаты...

Вядома, трэба ўвесь час займацца і танцамі, і гімнастыкай. На сцэне ж артысты не стаяць, як укапаныя, а рухаюцца і адначасова спяваюць. Без належнай фізічнай падрыхтоўкі гэта вельмі цяжка.

Падчас размовы мяне вельмі здзіўляла адно: у артысткі нізкі, нават нейкі крыху хрыплаваты голас... Але калі, расказваючы пра нешта, Тамара Мікалаеўна напела колькі нот, я адразу пачула тое самае каларатурнае сапрана. Проста не верыцца, што і пяе, і гаворыць чалавек аднымі і тымі ж звязкамі. Тым не менш гэта так, і ў спевакоў з-за гэтага шмат нязручнасцей.

*— Гэта я цяпер з вамі магу нагаварыцца ўволю, — жартуе Тамара Мікалаеўна. — А раней свае галасавыя звязкі эксплуатавала вельмі ашчадна. У дзень спектакля нават да тэлефона не падыходзіла. Дзеці, як крыху падраслі, разумелі ўсё. Толькі адзін да мяне з пытаннем, а другі ўжо палец да вуснаў прыкладае: «Ціха, маме сёння пець». Асабліва смешна было, калі малодшы сын Андрэйка падбягаў да тэлефона, які званіў, здымаў трубку і важна так гаварыў: «Мама падысці не можа. У яе сёння спектакль.» І гэтак жа важна клаў трубку...*

### ...славай, грашыма, шчасцем

*— ...славы было шмат заўсёды, грошай — ніколі. Але слава даражэйшая за любыя грошы. Я ўдзячная Усявышняму за тое, што падарыў мне такі лёс — пець на сцэне.*

**— Вы шчаслівы чалавек?**

*— Так, я вельмі шчаслівая. Свет оперы — цудоўны свет. Я шчаслівая, што жыла і жыву ў гэтым незвычайным свеце.*

***

На развітанне я папрасіла Тамару Мікалаеўну выбраць са шматлікіх фатаграфій адну для нашай газеты. Артыстка доўга не выбірала — яна дала мне фота Разіны — маладой, жыццярадаснай, жвавай гераіні «Севільскага цырульніка».

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 23 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** Аўта-парк. **8.30** Абібок. **9.00** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **9.25** Тураб'ектыў. **9.45** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». **10.40** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма. **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей. **15.40** Да Дня незалежнасці Беларусі. «Рабінзанада доктара Руселя». Частка 1-я. **16.10** «23 градусы 40 хвілін на ўсход па Грынвічу». **16.40** «Радавод» на III фестывалі беларускай полькі ў Чачэрску. **17.10** Майстэрня. Дынастыя мастакоў Гоманавых. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Памяці Данілы Коласа». Тэленарыс. **18.15** «Будзьце здаровы». **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». **20.05** Тэлеанонс. **20.10** Супергол. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Спартыўны тэлекур'ер. **22.10** Музычны антракт. **22.20** Вера Алентава і Эмануіл Вітарган у маст. фільме «Калі святыя маршыруюць». **24.00** Навіны.

**ГРТ**

**5.00** Тэлераніца. **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25** Навіны. **8.15** «Новая ахвяра». **9.05** «Мы». Вядучы — У. Познер. **9.45** Смехапанарама. Вядучы — Я. Петрасян. **10.10** «Дзве казкі». Мультфільм. **10.30** «Адгадай мелодыю». **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.55** Алімпійскія гульні ў Атланце. **14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца». **14.40** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.50** Чароўны свет ці Сінема. **15.20** «Элен і хлопцы». **15.45** Алімпійскія гульні ў Атланце. **17.20** «Новая ахвяра». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». **19.00** «Тэма». **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** Міхаіл Жараў у фільме «Вясковы дэтэктыў». **22.35** Прэс-клуб. **23.30** Алімпійскія гульні ў Атланце.

**Канал «Расія»**

**6.30** Ранішні экспрэс. **7.00, 10.00, 19.00, 22.00, 1.00** Весткі. **7.20** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял. **7.50** Час дзелавых людзей. **8.00** Працей простага. **8.25** «Санта-Барбара». **9.20** Алімпіяда-96. Бокс. **10.20** Дзелавы аўтограф. **10.30** Алімпіяда-96. Плаванне. Валейбол. **16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў. **17.05** Нічога, акрамя... **17.20** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.30** Алімпіяда-96. Футбол. **18.25** Свая гульня. **19.35** Алімпійскі кур'ер. **20.05** «Санта-Барбара». **21.00** Надвор'е на заўтра. **21.05** «Гарадок». Забаўляльная праграма. **21.35** «Мактуб: закон пустыні». 2-я серыя. **22.40** Алімпіяда-96. Бокс. Цяжкая атлетыка. Фехтаванне.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4031.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12